Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XI АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ Вып. 6

С. П. МАРГЕЛАЎ

# БРОВАРНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ І ЯЕ ШТАНДОРТ НА ТЭРЫТОРЫІ СУЧАСНАЙ БССР

## (1884—1927 г. г.)

З прадмовай і пад рэдакцыяй Г. І. ГАРЭЦКАГА, Дырэктара Навукова-Дасьледчага Інстытуту

ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

С. П. МАРГЕЛОВ
ВИНОКУРЕННАЯ ПРОМЫШЛЕННОСТЬ И ЕЕ ШТАНДОРТ НА ТЕРРИТОРИИ СОВРЕМЕННОЙ БССР
(1884—1927)
С предисловием и под редакцией Г. И. ГОРЕЦКОГО, Директора Института.

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR.

S. P. MARGELOV
THE BRANDY-DISTILLERY INDUSTRY AND IT'S STANDORD ON THE TERRITORY OF THE CONTEMPORARY WHITE — RUTHENIA (BIELARUŚ)
(1884—1927)
With a preface and redaction by G. I. HARECKI, director of Institute.

МЕНСК — MINSK
1928 г.



# ВЫШЛІ З ДРУКУ

**А. Працы Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту:**

| | | |
|---|---|---|
| Матэрыялы па лясной дасьледчай справе . . | т. I, вып. | 1 |
| Матэрыялы па лясной дасьледчай справе . . | т. VIII „ | 2 |
| Працы станцыі барацьбы са шкоднікамі „Суслакі на Беларусі“ . . . . . . . . . | т. II „ | 8 |
| Зьвесткі станцыі барацьбы са шкоднікамі . . | т. III „ | 9 |
| Працы Аддзелу Мэліорацыі і Культуры Балот „Рэнтабельнасьць інтэнсыўнай культуры балот Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі“ (1914—1925 г.) . . . . . . . | т. IV „ | 1 |
| Працы Аддзелу С.-Г. Эканоміі і Аграрнай Палітыкі: „Пасёлкі“ (оптымум тэорыі і эфэкт земляўпарадкаваньня) . . . . . . | т. V „ | 1 |
| Працы Аддзелу С.-Г. Эканоміі і Аграрнай Палітыкі: „Да пытаньня аб умовах разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі ў Беларусі“ | т. IX „ | 6 |
| Матэрыялы экспэдыцыі па вывучэньню эканомікі мэліорацыі на Беларусі . . . . | т. X „ | 1-5 |
| Працы Аддзелу С.-Г. Эканоміі і Аграрнае Палітыкі: „Броварная прамысловасьць і яе штандор на тэрыторыі сучаснай БССР“ | т. XI „ | 6 |

Праф. А. І. Кайгародаў. Кліматычны Атляс Беларусі.

Працы Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі і НКЗ: „Табліцы аб'ёму, зьбегу і сартымэнтныя для сасны, елі, дубу, ясеня, ольхі і асіны, бярозы, грабу“.

**Б. Навукова-папулярная літаратура:**

Пілько М. М.—Эканамічнае значэньне шкоднікаў на Беларусі.

Ас. Кіпрыянец К.—Валакаламскія севазвароты ў параўнаньні з беларускімі.

Ас. Плятнэр Т.—Рахункавыя запісы ў сялянскай гаспадарцы.

Штогоднік НДІ—„Першы год Працы“ 1927.

Материалы ко Всесоюзной конференции по изучению производительных сил СССР. (Современное состояние и ближайшие перспективы развития научно-исследовательской работы в области сельского и лесного хозяйства БССР в связи с развитием производительных сил народного хозяйства Белоруссии).

Праграма і інструкцыя дасьледчай працы Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў. Менск, 1928 г. Выд. Бюро Сялян-Дасьледчыкаў НДІ.

Вынікі працы Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў. 1927 г. Выд. Бюро Сялян-Дасьледчыкаў НДІ.

Інструкцыя Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў: „Як сялянам-дасьледчыкам ставіць досьледы з лекавымі расьлінамі“.

Часопісь „Сельская і Лясная гаспадарка“ 1, 2, 3, 4, 5, 6 і 7 кн.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XI АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ Вып. 6



С. П. МАРГЕЛАЎ

# БРОВАРНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ І ЯЕ ШТАНДОРТ НА ТЭРЫТОРЫІ СУЧАСНАЙ БССР

(1884—1927 г. г.)

З прадмовай і пад рэдакцыяй Г. І. ГАРЭЦКАГА, Дырэктара Навукова-Дасьледчага Інстытуту

ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

С. П. МАРГЕЛОВ

ВИНОКУРЕННАЯ ПРОМЫШЛЕННОСТЬ И ЕЕ ШТАНДОРТ НА ТЕРРИТОРИИ СОВРЕМЕННОЙ БССР

(1884—1927)

С предисловием и под редакцией Г. И. ГОРЕЦКОГО, Директора Института.

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR.

S. P. MARGELOV

THE BRANDY-DISTILLERY INDUSTRY AND IT'S STANDORD ON THE TERRITORY OF THE CONTEMPORARY WHITE — RUTHENIA (BIELARUŠ)

(1884—1927)

With a preface and redaction by G. I. HARECKI, director of Institute.

МЕНСК — MINSK

1928 г.





## ПРАДМОВА.

Самымі характэрнымі зьявішчамі ў разьвіцьці сусьветнае гаспадаркі за апошняе паўстагодзьдзе былі гіганцкія зьмены ў геаграфічным разьмяшчэньні гаспадаркі. Наяўнасьці гэтых зьмен і іх значэньню ў эканамічнай палітыцы абавязана сваім жыцьцём новая дысцыпліна—эканамічная геаграфія.

Савецкая сыстэма народнае гаспадаркі, тэрытарыяльна ахопліваючая вялізныя прасторы, ставіць ва ўсю веліч пытаньне аб рацыянальным геаграфічным разьмяшчэньні народнае гаспадаркі. Для савецкай эканамічнай палітыкі гэта пытаньне набывае выключнае значэньне, бо рэгулятарам геаграфічнага разьмяшчэньня гаспадаркі робіцца ня рынкачная стыхія і яе законы, а сьвядомая воля і плянавае кіраўніцтва дзяржавы. Гэтым тлумачыцца тая вялікая ўвага, якая надаецца эканамічнай геаграфіі ў савецкай сыстэме школьнае асьветы (па ўсіх яе ступенях), у працы плянавых органаў і навукова-дасьледчых устаноў.

Для Беларусі праблема геаграфічнага разьмяшчэньня гаспадаркі мае асабліва паважнае значэньне. Бяз веданьня асноў разьмяшчэньня гаспадаркі немагчыма зразумець даваенную эканоміку Беларусі. Гаспадарчае будаўніцтва Савецкае Беларусі будзе найбольш пасьпяховым і эфэктыўным толькі пры ясным уяўленьні месца паасобных галін гаспадаркі БССР і ўсёй народнай гаспадаркі БССР у сыстэме усёй народнай гаспадаркі СССР і ў геаграфічным разьмяшчэньні паасобных галін гаспадаркі Саюзу.

Эканамічная геаграфія, як самастойная навуковая дысцыпліна, амаль да апошняга часу ішла шляхам ідыяграфіі, была тыповай апісальнай дысцыплінай. Новыя кірункі тэарытычнай думкі ў азначэньні эканамічнай геаграфіі, як навуковае дысцыпліны, таксама падкрэсьліваюць яе пераважна ідыяграфічны характар (эканамічная геагрфія, як вучэньне аб экан. раёнах і іх узаемаадносінах—С. В. Бернштэйн-Коган). Пры такім разуменьні—эканамічная геаграфія не змагла-б даць пэўнага грунту для практыкі: простае апісаньне ці нават устанаўленьне эмпірычных законамернасьцяй ня можа быць падставай для канструкцыйна-плянавых пабудоў; такія пабудовы ў гаспадарцы магчымы толькі на падставе акрэсьленых навуковых законаў. Адгэтуль—шуканьне дасьледчыкамі СССР номографічных элемэнтаў ў эканамічнай геаграфіі, злучэньне эканамічнай геаграфіі з тэорыяй штандорту, разуменьне эканамічнай геаграфіі, як тлумачальнай дысцыпліны.

Найбольш закончаную тэорыю штандорту даў А. Вебер. Тэорыя А. Вебера лічыцца найвыдатнейшым дасягненьнем буржуазнай эканоміі апошніх год. А. Вебер не абмежаваўся толькі тэарытычнымі працамі ў галіне штандорту. Яго вучні (O. Schlier, C. Christiansen, A. Link, N. Haehger і інш.) далі шэраг прац, у якіх спрабавалі дапасаваць тэорыю А. Вебера да тлумачэньня канкрэтнага разьмяшчэньня як усёй нямецкай прамысловасьці, так і паасобных яе галін: хімічнай, скуранай, папяровай, музыкальнай і інш. Гэтыя першыя працы часткова сьцьвердзілі некаторыя тэарытычныя думкі А. Вебера,

паказалі частковую дастасавальнасьць тэорыі А. Вебера да канкрэтнай сапраўднасьці; аднак яны-ж паказалі наяўнасьць значных адхіленьняў ад тэорыі, апрача таго вучні А. Вебера не цалком выкарысталі ўсю досыць складаную тэарытычную пабудову А. Вебера.

Ні ў расійскай, ні тым больш у маладой беларускай эканамічнай літаратуры ня было яшчэ спроб дапасаваць тэорыю А. Вебера да тлумачэньня канкрэтнага прасторавага разьмяшчэньня тэй ці іншай галіны гаспадаркі. У гэтым сэнсе праца С. П. Маргелава «Броварная п—ць і яе штандорт на тэрыторыі сучаснай БССР» набывае асаблівую цікавасьць.

Броварная прамысловасьць зьяўляецца цікавым аб'ектам дасьледваньня з погляду штандорту. Фактары прасторавае арыентацыі дзейнічаюць у броварнай прамысловасьці вельмі рэзка, што дае магчымасьць вызначыць досыць выразна тып арыентацыі. Маючы «матар'яльныя склады» ў пунктах збору арганічнае сырызны, геаграфічнае разьмяшчэньне якіх тэорыя А. Вебера прыймае дадзеным, броварная прамысловасьць зьяўляецца такім аб'ектам, на аналізе разьмяшчэньня якога можна прасачыць недахопы або недаапрацаваныя месцы тэорыі Вебера. Тое, што тэорыяй прыймаецца як дадзенае, само залежыць у некаторых выпадках ад разьмяшчэньня прамысловасьці, штандорт якой яно павінна вызначыць. Апрача таго, на выбар аўтарам дзеля аналізу броварнае прамысловасьці ўплываў факт магчымых шырокіх пэрспэктыў гэтае прамысловасьці ў зьвязку з тэхнічным скарыстаньнем яе прадукцыі, як і факт вялікага разьвіцьця і інтэнсіўнасьці гэтае прамысловасьці на Беларусі. Дадатковую цікавасьць для аграр-эканаміста мае вывучэньне аб'ектаў, якія нібы злучаюць сельскую гаспадарку і прамысловасьць; такім злучнікам і служыць браварніцтва.

С. Маргелаў, разглядаючы браварніцтва даваеннае Расіі і Беларусі, апісвае канкрэтна разьмяшчэньне гэтае прамысловасьці, прычым дае вельмі ўдалы падзел Расіі і Беларусі на раёны браварніцтва; аўтарам ужыты арыгінальныя паказчыкі рёнаваньня, характарызуючы аб'ём браварніцтва, інтэнсіўнасьць яго, разьмер заводаў і склад сырызны.

Дасьлядуючы штандортныя асаблівасьці броварнае прамысловасьці, С. Маргелаў правідлова ўжывае мэтодыку А. Вебера і вылічвае «Матар'яльныя індэксы» для бровару з перапрацоўкай бульбы, з перапрацоўкай жыта, для рэкціфікацыйнага і гарэлачнага заводаў. Вызначаючы характар транспартнае арыентацыі на падставе вылічаных матар'яльных індэксаў, С. Маргелаў атрымоўвае тэарытычныя вынікі, якія сьцьвярджаюцца сапраўдным разьмяшчэньнем заводаў. Фактары рабочай арыентацыі і асабліва фактары агломэрацыі-дэгломэрацыі аўтар не разглядае з такою дакладнасьцю, як фактары транспартнае арыентацыі, з прычыны іх слабога ўплыву на разьмяшчэньне броварнае прамысловасьці.

Аўтар у эскізных рысах дае тлумачэньне лёкалізацыі браварніцтва па ўстаноўленых ім раёнах Расіі і Беларусі; пры гэтым аўтар прыцягвае да тлумачэньня шэраг фактараў, якія ляжаць пазамежамі тэорыі Вебера, асабліва фактараў сацыяльна-палітычных, якія цалком ігнаруюцца Веберам. Як марксыст, С. Маргелаў асабліва падкрэсьлівае, і зусім правідлова, вызначальную ролю пры лёкалізацыі якраз гэтых фактараў (напр., буйнае зямляўладаньне). Такі мэтадалёгічны падыход дапамог аўтару крытычна аднесьціся і да пытаньня аб зьменах штандортных фактараў у пасьлярэвалюцыйны час; зьмены гэтыя бачыць аўтар: 1) у выпадзеньні абшарніцкіх гаспадарак і пераня-

сеньні сырызнае базы броварнае прамысловасьці ў масавыя сялянскія гаспадаркі і 2) у плянавым разьмяшчэньні броварнае прамысловасьці па прасторы.

Разглядаючы пытаньне аб лёкалізацыі броварнае прамысловасьці ў пэрспэктыве, С. П. Маргелаў бярэ пад увагу ня толькі суму штандортных фактараў Вебера, але і фактары, якія тлумачаць пэрспэкцыйную лёкалізацыю саміх «матар'яльных (сырызных) складаў» броварнае прамысловасьці, якія па Веберу лічацца ўжо дадзенымі; аўтар пры гэтым карыстаецца больш тэорыяй штандорту сельскае гаспадаркі, чымся тэорыяй штандорту прамысловасьці. Пазытыўныя вывады аўтар робіць зусім правідловыя: БССР у сыстэме іншых сел.-гасп. раёнаў СССР зьяўляецца раёнам, дзе ўзмоцненая лёкалізацыя браварніцтва была-б найбольш рацыянальна; з паасобных акруг БССР—найбольш спрыяючыя ўмовы лёкалізацыі браварніцтва ёсьць у паўднёвай Аршаншчыне і Магілеўшчыне, Бабруйшчыне, Гомельшчыне і Мазыршчыне.

Такім чынам, спроба С. П. Маргелава скарыстаць тэорыю штандорту А. Вебера дзеля тлумачэньня канкрэтнага разьмяшчэньня броварнае прамысловасьці дала станоўчыя вынікі. Яна яшчэ раз паказала, што тэорыя Вебера дае дасьледчыку моцны мэтадалёгічны сродак дзеля зразуменьня сапраўднага прасторавага разьмяшчэньня гаспадаркі; але што просты непасрэдны пераход ад гэтае тэорыі да вытлумачэньня рэчаіснасьці быў-бы памылковым. Дзеля набліжэньня да рэчаіснасьці ў тэорыі Вебера трэба ўводзіць новыя фактары, якія гэта тэорыя ігнаравала або лічыла проста дадзенымі. Такімі фактарамі трэба лічыць перш-на-перш фактары сацыяльна-палітычныя, якія часта вызначаюць лёкалізацыю альтэрнатыўна; гэта датычыцца асабліва да краін з незамкнутаю гаспадаркаю, як, напр., БССР.

Праца С. П. Маргелава зьяўляецца аднэю з першых самастойных прац асьпірантаў НДІ, якія выконваюцца асьпірантамі ў часе іх навуковае падрыхтоўкі. Праца гэтая сьведчыць, што аўтар стаіць на правідловым мэтадалёгічным шляху ў пытаньнях эканамічнай геаграфіі.

Дырэктар НДІ **Г. Гарэцкі.**

# УСТУП.

Практычнае дапасаваньне штандортнай тэорыі Вэбэра да канкрэтнае сапраўднасьці зьяўляецца неадкладнаю задачаю сучаснасьці. Бо «можна лічыць,—як кажа Н. Баранскі,—зусім бясспрэчным, што кожны паступовы рух у галіне пытаньняў прасторавага разьмяшчэньня прамысловасьці мажліў толькі праз тэорыю Вэбэра, а ні ў якім разе ня міма гэтай тэорыі» (гл. прадмову да перакладу на расійскую мову A. Weber. „Ueber den Sfandort der Industrien“, зробленага Н. Марозавым, ст. 7).

Мая праца зьяўляецца спробаю дапасаваць тэорыю Вэбэра да тлумачэньняў конкрэтнага разьмяшчэньня броварнае прамысловасьці ў даваенны час, а таксама адшукаць асаблівасьці штандортных фактараў гэтае прамысловасьці ў сучасных умовах на тэрыторыі БССР.

Паўстае пытаньне аб тым, чаму я застанавіўся іменна на броварнай, а не на другой галіне прамысловасьці. Пры чым, гэтае пытаньне паўстае ў сувязі з тым, што броварная прамысловасьць даваеннага часу грунтавалася пераважна на піцьцёвым рынку, які немінуча загіне разам са спадчынаю царскага строю—цемраю і неадукаванасьцю мас.

Бязумоўна, піцьцёвы рынак ня можа зьяўляцца пэрспэктыўным грунтам разьвіцьця браварніцтва, але перад гэтаю галінаю прамысловасьці адчыняецца рынак мэдыцынскім і тэхнічным спажываньнем сьпірытусу.

На колькі можа быць вялікім тэхнічнае запатрабаваньне на сьпірытус паказвае прыклад (бярэм яго ў праф. Тавілдарава. «Производительные силы России», 1896 г., артыкул аб браварніцтве), які сьведчыць аб тым, што «у Нямеччыне амаль-што 20 проц. (каля 4,5 міл. вядзёр) усяго выкуранага ў год сьпірытусу ідзе для тэхнічных мэт», пры гэтым прыведзеныя лічбы адносяцца да 90-х гадоў мінулага сталецьця, у тэй час, як у Расіі з 1890 па 1893 год на гэту справу страчана толькі 800 т. вядзёр.

Такое было спажываньне сьпірытусу для тэхнічных і мэдыцынскіх мэт у 1890-93 г. г., але тэхнічнае разьвіцьцё ідзе хуткімі крокамі ўперад, а разам з гэтым разьвіцьцём пашыраецца і ўжываньне сьпірытусу. Апошні шырока ўжываецца ў хэмічнай справе (выраб фарбы, растворы, фабрыкацыя штучнага каўчуку і г. д.), у ваеннай справе (выраб бяздымнага пораху), для асьвятленьня і апальваньня, як маторнае паліва ў аўтамабілях і іншых рухавіках і шмат іншага спажываньня сьпірытусу высоўвае паступовы рух тэхнічнага разьвіцьця.

Тут асабліва паказальнымі зьяўляюцца лічбы тэхнічнага і мэдыцынскага спажываньня сьпірытусу за розныя часы. Так, па даных праф. Тавілдарава, з 1890 па 1893 г. г. у сярэднім за год на гэтую справу ішло 266.667 вядзёр сьпірытусу, а за 1910-12 г. г., па даных Ц. С. К. (Стат. даведнік на 1927 год), на здавальненьне тэхнічных запатрабаваньняў пашло 3,2 міл. вядзёр сьпірытусу, або ў сярэднім на год 1,6 міл. вядзёр (узрост на 500 проц.).

Не паслабляецца тэхнічнае спажываньне сьпірытусу і ў пасьлярэволюцыйныя часы. Так, па даных ВСНГ («Промышленность СССР

в 1924 году»), у 1923-24 гаду на здавальненьне тэхнічных запатрабаваньняў пашло 1.315.642 вядры сьпірытусу толькі па РСФСР.

Трэба думаць, што калі ўзрост тэхнічнага спажываньня сьпірытусу ідзе ў такой адносна аграрнай краіне, як СССР, то ў краінах індустрыяльных гэтае спажываньне павінна быць вельмі вялікім, а гэта ўсё азначае, што запатрабаваньні на тэхнічнае спажываньне сьпірытусу павінны ўзрастаць. У ва ўсякім разе, у гэтым узросьце запатрабаваньняў на сьпірытус ляжыць пэрспэктыва разьвіцьця бравaрніцтва і апраўданьне яго грамадзкай карыснасьці.

Па колькі-ж разьвіцьцё броварнае прамысловасьці, у тым або іншым колькасным разьмеры, зьяўляецца неабходным, то вельмі важна, як і ўсякую галіну прамысловасьці, рацыянальна разьмясьціць яе ў прасторы. Гэта па-першае.

Па-другое, Беларусь увесь час належыць (па прычынах, якія тлумачуцца ў працы) да самага інтэнсыўнага броварнага раёну.

Колькасны разьмер разьвіцьця і асаблівасьці бравaрніцтва, як прамысловасьці, спагадліва ўплываючай на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, таксама прымушаюць зьвярнуць на гэтую галіну належную ўвагу.

Вось тыя прычыны, дзякуючы якім я застанавіўся над вывучэньнем канкрэтных штандортных асаблівасьцяў іменна броварнае прамысловасьці.

Адсутнасьць падрабязных матар'ялаў па броварнай прамысловасьці, безумоўна, адбіваецца адмоўна на працы як пры раёнаваньні, так і пры тлумачэньні лёкальнасьці даваеннага бравaрніцтва.

Лічу сваім прыемным абавязкам выказаць шчырую падзяку Г. І. Гарэцкаму за мэтодолёгічныя рады, якія ён мне ласкава аказваў пры выкананьні гэтае працы.

## ЧАСТКА І.

# Браварніцтва даваеннай Расіі.

### 1. Умовы разьвіцьця броварнае прамысловасьці ў даваеннай Расіі.

Мажлівасьць заснаваньня броварнае прамысловасьці дапушчае сабою наяўнасьць гандлёвага земляробства.

Апошняе ў Расіі пачало складацца ў канцы 18 стагодзьдзя—час, калі на падставе шырокага разьвіцьця шляхоў зносін пачала будавацца сусьветная гаспадарка, калі паасобныя краіны атрымалі мажлівасьць спэцыялізавацца ў тым напрамку, якому найбольш спрыялі натуральныя ўмовы.

У гэты час раённай спэцыялізацыі пачалася інтэнсыўная перабудова гаспадаркі Англіі з аграрнай у індустрыяльную і гэтым самым стварыўся вельмі вялікі рынак на прадукты земляробства.

Вельмі памысная рыначнаая коньюнктура, якая склалась у гэты час на збожжавыя (зярнёвыя) культуры садзейнічала буйнаму разьвіцьцю хлебнага гандлю і земляробства Расіі «пачало ператварацца ў фабрыку для вытвору хлеба» (М. Покровский «Очерки по истории революционного движения в Росии 19 и 20 в. в. ст. 21).

Гэтая-ж памысная коньюнктура абуджала ліберальны, прогрэсыўна-капіталістычны настрой перадавых, буйных земляўласьнікаў, у якіх гнілая ідэолёгія фэодальнага строю пачала падмяняцца спрытнымі думкамі капіталізму.

Разам з адшуканьнем магчымасьці, праз рэформы, зрабіць працу падданых сялян больш вытворчай, працавала думка маладога буржуа і, як у напрамку лепшага скарыстаньня дадатковай вартасьці, атрымліваемай у выглядзе земляробчага прадукту, так і ў напрамку большага прыстасаваньня да хістаньня рыначнай коньюнктуры і розных незадач непасрэднага гандлю хлебам.

Разьвіцьцё тэхнічнай перапрацоўкі прадуктаў сельскае гаспадаркі ў больш каштоўныя, больш транспортабельныя і лепш збываемыя формы было найлепшай забясьпекай трываласьці прыбытку земляўласьнікаў.

Асабліва прогрэсыўнымі аказаліся і першымі сталі выяўляць сябе ў даным напрамку магнаты Прыбалтыкі, якія,—па сьведчаньню М. Пакроўскага (тамжа ст. 24),—першымі даведаліся аб большай мэтазгоднасьці ўжываньня над сьпінаю падданых сялян розкі за месца кію (што ў тэй час было рэформай), а таксама далі прыклад у пабудоўлі броварных заводаў.

Аграрная рэформа 1861 году, аднэй з галоўных прычын выкліканьня якой было жаданьне земляўласьнікаў падняць вытворчасьць у сельскай гаспадарцы з мэтаю найлепшага скарыстаньня рыначнай коньюнктуры, дала ў сваём выніку значны ўзрост сельска-гаспадарчай прадукцыі.

Рост-жа сусьветнай гаспадаркі, праз уцягваньне ў абмен дагэтуль ізалёваных дзяржаў, ішоў уперад.

На хлебным рынку зьявіліся такія дзяржавы, як Аўстралія, Аргэнтына, Канада.

У выніку ўсяго сказанага ў 80-х г. г. 19 стагодзьдзя здарыўся крызіс збыту.

Цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты палі, што вельмі спрыяла разьвіцьцю тэхнічнага сельска-гаспадарчага вытвору наогул і ў прыватнасьці бровару.

Такім чынам, рост тэхнічнага сельска-гаспадарчага вытвору «ўяўляў сабою адну з форм разьвіцьця гандлёвага земляробства, і пры гэтым як-раз такую форму, якая з асобнай рэльефнасьцю паказвае перакіданьне земляробства ў адну з галін прамысловасьці капіталістычнае грамады» (Н. Ленін. «Развитие капитализма в России». ст. 226).

Разьвіцьцё броварнае прамысловасьці, як і іншых відаў тэхнічнага вытвору па пераапрацоўцы прадуктаў сельскае гаспадаркі, зьвязана з тэхнічным прогрэсам у сельскай гаспадарцы.

Гэтая сувязь ажыцьцяўляецца ў даным выпадку як праз пашырэньне культуры бульбы, так і праз скарыстаньне адкідаў вытвору— барды.

Інакш кажучы, паміж сельскаю гаспадаркаю і прамысловасьцю, заснаванай на яе сырызьне, устанаўліваецца нейкая ўзаемазалежнасьць, «у парушэньні якой зьмяшчаецца адно з самых глыбокіх супярэчнасьцяў капіталізму» (Н. Ленин. Тамжа ст. 227).

Такім чынам, броварная прамысловасьць—1) робіць устойлівай сельскую гаспадарку ў адносінах да хістаньня цэн на збожжавыя (зярнёвыя) культуры і 2) робіць спагадлівы ўплыў на падняцьцё тэхнікі сельскае гаспадаркі.

Дзякуючы сказанаму, разьвіцьцё бровару становіцца непасрэдным інтарэсам сельска-гаспадарчых краін.

Асабліва гэтае разьвіцьцё адказвала інтарэсам пасьлярэформеннай Расіі, як сельска-гаспадарчай краіны з шырокім разьвіцьцём буйнага земляўласьніцтва і з земляробствам, якое пачало будавацца на гандлёвы лад.

Гэтым тлумачыцца зацікаўленасьць броварам з боку буйных земляўласьнікаў.

Калі да сказанага дадазім яшчэ тое, што прыбытак царскага ўраду ад бровару (праз акцыз), перад імпэрыялістычнаю бойкаю, быў ровен 675 млн. рублёў, што складала 26,2 проц. дзяржаўнага каштарысу (Проф. А. И. Скворцов. «Основы экономики земледелия». т. 3 ст. 193), то стане зразумелым, што і царскі ўрад меў грунт, каб зацікавіцца разьвіцьцём бровару.

Але каштарысныя справы не зьяўляліся галоўным прымусам, аб'яднаўшым інтарэсы земляўласьнікаў з інтарэсамі ўраду, галоўным тут было тое, што царскі ўрад быў фэодальным урадам, на чале з самым буйным земляўласьнікам—царом, таму інтарэсы земляўласьнікаў былі інтарэсамі ўраду і наадварот.

Дзякуючы такім абставінам, броварная прамысловасьць даваеннай Расіі падняла свой выраб на першае месца сярод іншых дзяржаў. Так, калі возьмем для параўнаньня сярэднія лічбы гадавога вырабу розных дзяржаў за 1910—12 г. г. (В. Э. Дэн, «Курс экономической геогра-

фии». Ленинград 1924 г. ст. 299), то атрымаем наступны малюнак (Таб. № 1):

*Таблица № 1.*

| НАЗВА КРАЇН | Выраб у міл. вядзёр 40% спірытусу |
|---|---|
| Расія . . . . . . . . | 117 |
| Нямеччына . . . . . . | 70 |
| Злучаныя Штаты . . . . | 67 |
| Аўстра-Вэнгрыя . . . . . | 54 |

і г. д. ідзе памяншэньне вырабу сьпірытусу ў другіх краінах.

**2. Концэнтрацыйныя тэндэнцыі разьвіцьця броварнае прамысловасьці і барацьба з імі.**

У разьвіцьці броварнае прамысловасьці даваеннай Расіі яскрава вызначалась тэндэнцыя концэнтрацыі, аб якой сьведчыць табліца № 2.

*Таблица № 2.*

| ПЭРЫОДЫ | Лік дзейнічаўшых заводаў | Выраб бязвод. сьпір. у тыс. ведзер |
|---|---|---|
| 1873—4 г. г. . . . . . . | 3.535 | 31.437 |
| 1882—3 г. г. . . . . . . | 2.517 | 32.300 |
| У сярэднім за 10-годзьдзя . . . . | **2.994** | **30.905** |
| 1883—4 г. г. . . . . . . | 2.447 | 36.612 |
| 1892—3 г. г. . . . . . . | 2.046 | 27.685 |
| У сярэднім за 10-годзьдзя . . . . | **2.175** | **31.448** |
| 1893—4 г. г. . . . . . . | 2.097 | 29.716 |
| 1903—4 г. г. . . . . . . | 2.400 | 32.920 |
| У сярэднім за 10-годзьдзя . . . . | **2.163** | **31.330** |
| 1904—5 г. г. . . . . . . | 2.552 | 36.798 |
| 1912—13 г. г. . . . . . . | 2.969 | 49.300 |
| У сярэднім за апошнія гады . . . | **2.792** | **42.674** |

З табліцы можна заўважыць, што: 1) да 1893—4 году ідзе памяншэньне ліку дзейнічаўшых заводаў, нават гэтае памяншэньне ў сярэднім па дзесяцігодзьдзям дасягае 1903—4 году, з аднначасовым павялічэньнем агульнага вырабу сьпірытусу.

Паніжэньне вырабу ў 1892—3 годзе тлумачыцца недародам 1891 г.
2) З 1893—4, а асабліва выразна з 1903—4 году, да 1912—13 году ідзе ўзрост ліку дзейнічаўшых заводаў, але гэты ўзрост не дасягае ліку заводаў, якія дзейнічалі ў 1873—4 годзе,—выраб-жа значна павялічыўся.

Асабліва яскравай становіцца концэнтрацыя, калі мы зробім адноснае параўнаньне крайніх лічбаў прыведзенай табліцы № 2 (Таб. № 3).

*Табліца № 3.*

| ПЭРЫОДЫ | Лік заводаў | Выраб у тыс. ведзер | У % % па: | |
|---|---|---|---|---|
| | | | заводах | вырабу |
| 1873-4 г. . . . | 3.535 | 31.437 | 100 | 100 |
| 1912—13 г. . . | 2.699 | 49.300 | 89 | 157 |

У тэй час, як лік заводаў зьнізіўся на 11 проц. выраб падняўся на 57 проц. Характар самой концэнтрацыі вызначае табл. № 4.

*Табліца № 4.*

| ПЭРЫОДЫ | Лік усіх заводаў % % | З іх дроб. (да 25 т. в. вырабу) % % | Сярэдніх (25—100 т. в. вырабу) % % | Буйных (100 т. в.) % % |
|---|---|---|---|---|
| 1893—4 г. . . . | 2.097 / 100 | 1.203 / 57,4 | 751 / 35,8 | 143 / 6,8 |
| 1905—6 г. . . . | 2.552 / 100 | 1.213 / 47,5 | 1.215 / 47,6 | 124 / 4,9 |
| 1910—11 г. . . | 2.888 / 100 | 1.077 / 37,4 | 1.602 / 55,6 | 203 / 7 |

Такім чынам, заўважваем, што концэнтрацыя ідзе ў напрамку паступовага павялічэньня ліку сярэдніх заводаў (з вырабам ад 25 да 100 т. вядзёр сьпірытусу), а лік буйных заводаў хістаецца навакол аднаго і таго-ж процэнту.

Концэнтрацыя такога характару тлумачыцца тым, што буйныя заводы, пераапрацоўваючы шмат матар'ялаў, ня могуць здаволіцца сырызнаю аднае гаспадаркі і пачынаюць прыцягваць прывозную сырызну. Бульба зьяўляецца нетранспортабельным матар'ялам і таму буйныя заводы працуюць, галоўным чынам, на зерні, «а паколькі здабыча зернавых матар'ялаў зрабілася асабліва зручнай у гарадох, то тут-жа пачалі ўтварацца ў вялікім ліку заводы, ня маючыя ніякай сувязі з сельскаю гаспадаркаю і складаючыя звычайныя прамысловыя прадпрыемствы» (А. И. Скворцов, Цыт. праца ст. 187).

Буйныя заводы перакладваюць такім чынам карысьць ад бровару з кішэні земляўласьнікаў у кішэню другіх социяльных груп і пазбаў-

ляюць сельскую гаспадарку таго культурнага ўплыву, які рабіла на яе дробная броварная прамысловасьць. Таму концэнтрацыя, з пункту погляду земляўласьнікаў, была адмоўным зьявішчам.

Царскі ўрад, які цалкам стаяў на абароне інтарэсаў зямельнае буржуазіі, увесь час, пачынаючы з 1891 году, вёў барацьбу за, так званы, «сельска-гаспадарчы» бровар, пад якім разумелася дробная броварная прамысловасьць, якая грунтавалася на прадукцыі гаспадаркі прадпрыемцы.

У 1891 годзе быў уведзен закон, які, разам з зьнішчэньнем так званай сыстэмы «перакуру» (аддача вырабу сьпірытусу вышэй нормы ў карысьць заводчыка без'акцызна), увёў без'акцызнае адлічэньне пэўнага процэнту з усяго выробленага сьпірытусу ў карысьць заводчыка, пры гэтым, процэнт адлічэньня памяншаўся разам з павялічэньнем вырабу заводу.

Гэтае мерапрыемства вельмі спрыяла дробнаму бровару і выбівала грунт з пад ног буйнага, прамысловага бровару.

Бо пры сыстэме «перакуру», сэнс якой быў у тым, што, у залежнасьці ад вялічыні заторных чаноў, устанаўлівалася норма вырабу сьпірытусу, за які выплачваўся акцыз, а калі прадпрыемца зможа з таго-ж затору атрымаць больш сьпірытусу, то апошні (сьпірытус звыш нормы) не абкладаўся акцызам.

Павялічэньне затору, без павялічэньня аб'ёму чаноў, існаваўшым законам не прэд'угледжвалась, а тут і быў выхад для павялічэньня вырабу. Магчымасьць значнага павялічэньня затору, безумоўна, была большая пры большым аб'еме чаноў, якіх было больш на буйных заводах.

Таксама лепей было павялічыць затор у тым выпадку, калі броварны завод працаваў на зярнёвай сырызьне, а не на бульбе, якая была грунтам дробнага бровару. Акрамя таго, буйны бровар мог павялічыць выраб за кошт наогул лепшага тэхнічнага абсталяваньня.

Закон 1891 году, зьнішчыўшы сыстэму «перакуру», зрабіў дробны бровар больш устойлівым у конкурэнцыі з буйным броварам. Больш таго, закон 1891 году перабудаваў сыстэму ўзносу акцызу, прыстасаваўшы яе да інтарэсаў «сельска-гаспадарчага» бровару. Уся гэтая сыстэма мерапрыемстваў ураду, бязумоўна, перашкаджала чыста прамысловай концэнтрацыі броварнае прамысловасьці даваеннай Расіі, што яскрава відна з табліц аб концэнтрацыі, але не спыніла яе зусім, бо, як мы бачылі раней, концэнтрацыя ўсё-ж ішла толькі ў такой форме, якая, відавочна, здавальняла і земляўласьнікаў, бо гэта былі заводы сярэдніх разьмераў.

---

### 3. Броварныя раёны эўропэйскай часткі даваеннай Расіі.

З мэтай уяўленьня тыпаў броварнае прамысловасьці і іх географічнай лёкальнасьці на тэрыторыі Эўропэйскай Расіі, а таксама з мэтаю параўнаньня тыпу бровару на Беларусі з іншымі раёнамі, зробім пагубэрнскае раёнаваньне гэтай прамысловасьці.

У якасьці паказчыкаў возмем—1) выкурку сьпірытусу на: а) 100 дзесяцін пахаці і б) 100 душ насельніцтва.

Гэтыя паказчыкі будуць адбіваць сабою адносную інтэнсыўнасьць броварнае прамысловасьці ў розных раёнах.

2-м паказчыкам возьмем сярэдня-гадавую выкурку (у вёдрах 40°) на адзін завод.

Лічучы, што з павялічэньнем выкуркі на адзін завод бровар будзе пераходзіць на больш транспортабельную сырызну (з бульбы на збожжа), а адгэтуль—орыентацыя заводу будзе на рыначныя пункты збожжа, а не на гаспадарку, і тым самым будзе траціцца сувязь з сельскаю гаспадаркаю (уплыў бульбы і адсутнасьць мажлівасьці поўнасьцю выкарыстаць адкіды)—гэты паказчык выявіць нам адносную сувязь броварнае прамысловасьці з сельскаю гаспадаркаю.

Існуючы падзел броварных заводаў на сельска-гаспадарчыя, прамысловыя і мяшаныя, зьяўляецца юрыдычным, а не фактычным падзелам па сувязі з сельскаю гаспадаркаю, да таго-ж яшчэ гэты падзел грунтаваўся на прыватнаўласьніцкай гаспадарцы прадпрыемцаў заводу, а не на спажываемай сырызьне (што асабліва нас павінна цікавіць), таму гэты падзел па сутнасьці не адпавядае свайму зьместу і на ім ня можна грунтавацца.

Таму, лепш за ўсяго ўзяць процэнтныя суадносіны розных заводаў па юрыдычнаму падзелу, як дапамагальны паказчык.

І, нарэшце, возьмем другі дапамагальны, але вельмі важны, паказчык—процэнтныя суадносіны спажываемай сырызны (збожжа, бульба, патака).

Паколькі надзвычайна цяжка і нават, па мойму, ня можна ўзяць у прынятых намі паказчыках такіх інтэрвалаў, якія-б строга адпавядалі пэўнаму об'ектыўнаму зьместу, то давядзецца пайсьці м э т а д а м г е о г р а ф і ч н а г а а д з і н с т в а р а ё н а ў, а за атрыманымі, у выніку такога раёнаваньня, інтэрваламі захаваецца зьмест адноснага выяўленьня паказчыкаў.

Такім чынам, вызначаныя паказчыкі будуць характарызаваць броварныя раёны як з боку адноснай інтэнсыўнасьці, так і з боку адноснай сувязі з сельскаю гаспадаркаю, а на падставе гэтай характарыстыкі можна будзе вызначыць геграфічную лёкальнасьць таго ці іншага тыпу бровару.

Паміж двумя паказчыкамі інтэнсыўнасьці (выкурка сьпірытусу на 100 дзесяцін пахаці і на 100 душ насельніцтва) назіраецца (Дадатак табліца № 2) роўналежнасьць, якая парушаецца толькі ў некаторых губэрнях, або з вялікім разьвіцьцём прамысловасьці і вялікай гушчынёй насельніцтва, дзе інтэнсыўнасьць вышэй на 100 дзесяцін пахаці, чым на 100 душ (Маскоўская губ.), або ў губэрнях сельска-гаспадарчых, дзе інтэнсыўнасьць, наадварот, вышэй па насельніцтву; наогулжа гэтыя паказчыкі роўналежны.

Паказчык інтэнсыўнасьці на 100 дзесяцін пахаці, бязумоўна, будзе найбольш адпавядаць мэце вызначэньня сельска-гаспадарчай інтэнсыўнасьці і таму мы яго бярэм за аснову, а паказчык на 100 душ будзе зьяўляцца зноў-такі дапамагальным і вызначальным толькі ў тым выпадку, калі няма даных для першага паказчыку.

Мапаграма №1 дае мажлівасьць уявіць геаграфічную лёкалізацыю раёнаў бровару па інтэнсыўнасьці.

Першы,—самы інтэнсыўны раён працягваецца праз Прыбалтыку, Беларусь, Паўночна-Заходнюю Украіну, Чарнігаўшчыну, захапляе Харкаўскую губэрню, ідзе праз Сярэдня-Чорназёмныя, землярробчыя губэрні і заканчваецца Пензенскай і Сімбірскай губэрнямі.

Выкурка на 100 дзесяцін у гэтым раёне, пачынаючыся з 93 вядзёр у падраёне 1б (Дадатак, табліца № 2), даходзіць аж да 598 вядзёр у падраёне 1а (Эстляндская губэрня).

Губэрні менш за 100 вядзёр выкуркі на 100 дзесяцін уваходзяць у гэты раён дзякуючы таму, што яны, па сваёй раскіданасьці, ня могуць быць выдзелены ў асобны раён, а па вялічыне выкуркі найбольш пады-




Мапаграма № 1 *)

*) Назвы губэрань гл. дадатак Тав. № 2

ходзяць да 1-га інтэнсыўнага раёну, чым да сумежнага 2-га—сярэдняй інтэнсыўнасьці раёну.

Другі раён,—раён сярэдняй інтэнсыўнасьці, з выкуркаю 31—70 вядзёр на 100 дзесяцін пахаці, зьяўляецца некалькі раскіданым, ён праходзіць 1) шэрагам губэрань на Паўднёвай мяжы інтэнсыўнага раёну (г. г. Бесарабская, Херсонская, Палтаўская, Варонежская, Саратаўская), 2) концэнтруецца на Поўначы (г. г. Пецярбурская, Пскоўская, Віцебская, Смаленская, Калужзкая, Цьвярская, Яраслаўская) і на Паўночным Усходзе (Ніжагародзкая, Казанская, Вяцкая, Уфімская і Пермская г. г.),—першага раёну.

Трэці раён,—слабага разьвіцьця бровару (10—23 вядры на 100 дзесяцін пахаці) таксама, як і другі, зьяўляецца раскіданым. На Поўдні і на Паўднёвым Усходзе ў яго ўваходзяць г. г. Таўрыцкая, Кацярынаслаўская, Данская, Самарская і Орэнбурская, а на Поўначы—г. г.: Наўгародзкая, Валагодзкая, Кастрамская, Уладзімірская і Маскоўская.

І нарэшце, некалькі паасобку стаіць Архангельская губэрня (4), дзе маецца толькі адзін завод, які дае вялікую інтэнсыўнасьць у адносінах да пахаці (128 вядзёр на 100 дзесяцін) і малую інтэнсыўнасьць—да насельніцтва (25 вядзёр на 100 душ).

Мапаграма № 2 паказвая раёны броварніцтва па вялічыні заводаў.

Першы раён—з самымі дробнымі заводамі (да 35 т. вядзёр вырабу ў год) захапляе Прыбалтыку, Беларусь, Паўночна-Заходнія губэрні, Валагодзкую, Кастрамскую і з Украінскіх—Палтаўскую губэрню.

Другі раён,—з сярэдняю вялічынёю заводаў (да 100 т. вядзёр вырабу ў год) ахапляе ўсі астатнія губэрні, паміма г. г.—Таўрыцкай, Харкаўскай, Маскоўскай, Орэнбурскай і Архангельскай (4), заводы якіх маюць выкурку больш за 100 т. вядзёр у год (3).

Устанавіўшы такім чынам раёны па адноснай інтэнсыўнасьці і раёны па вялічыні заводаў мы можам падыйсьці да вылучэньня агульнага тыпу раёнаў. Для гэтага нададзім кожнай ступені выяўленьня паказчыкаў (інтэрвалам) умоўныя адзнакі, адзначым імі кожную губэрню (відавочна, што кожная губэрня будзе мець па аднаму таму ці іншаму адзнаку ад кожнага паказчыка) і затым злучыўшы губэрні з аднолькавымі адзнакамі мы будзем мець аднатыпныя раёны.

Дапамагальныя паказчыкі (процэнтныя суадносіны сырызны і розных заводаў) скарыстаем для вырашэньня пытаньня аб географічным адзінстве раёнаў.

Ідучы апісаным мэтадам мы можам устанавіць наступныя броварные раёны (Мапаграма № 3 і дадатак табл. № 2).

**1 раён.** Гэта раён высока-інтэнсыўнае, сельска-гаспадарчае броварнае прамысловасьці.

Сюды ўваходзяць г. г.: Эстляндзкая, Курляндзкая, Ліфляндзкая (падраён 1а), Ковенская, Віленская, Горадзенская, Менская, Магілеўская, Чарнігаўская, Валынская (падраён 1б).

Вельмі вялікая выкурка на 100 дзесяцін пахаці, асабліва ў падраёне 1а пры невялікай сярэдня-гадовай выкурцы на 1 завод, нязначны % збожжавых (зярнёвых) і вялікі % бульбы ў сырызьне—вось характэрныя асаблівасьці гэтага раёну, асаблівасьці, якія сьведчуць аб шчыльнай сувязі бровару з сельскаю гаспадаркаю.

У бровару Чарнігаўскай і Валынскай губэрань вялікую ролю мае патака, складаючая ў першай 8 %, а ў другой 21 % да ўсяе сырызны.

Некалькі паасобку трымаецца Ковенская губэрня, якая ўваходзіць у гэты раён больш географічна. Бровар гэтае губэрні мае сярэднюю

інтэнсыўнасьць, напрамак-жа яго падыходзіць да напрамку бровару ўсяго раёну, што характарызуецца: нізкай сярэдня-гадавой выкуркай на 1 завод, процантнымі суадносінамі сырызны і 100-процантнай юрыдычнаю «сельска-гаспадарчасьцю» заводаў.

У гэтым першым раёне нарадзілася броварная прамысловасьць Расіі (Прыбалтыка), у ём яна дасягнула свайго найвялікшага разьвіцьця і найлепшай сувязі з сельскаю гаспадаркаю, праз вялікі процантны ўдзел бульбы ў сырызьне.

У гэтым раёне найбольш выразна вызначаецца тое, што Ў. І. Ленін называў капіталізацыяй сельскае гаспадаркі; гэтай капіталізацыі спрыяла асабліва шырокае разьвіцьцё ў гэтым раёне буйнага абшарніцкага землеўладаньня, якое, як мы бачылі раней, атрымоўвала вялікую карысьць ад разьвіцьця броварнае прамысловасьці.

**2 раён.** Раён высока інтэнсыўнае, сярэдняй сувязі з сельскаю гаспадаркаю броварнае прамысловасьці.

Сюды ўваходзяць г. г.: Падольская, Кіеўская, Палтаўская, Харкаўская, Курская, Арлоўская, Тульская, Тамбоўская, Варонежзкая, Пензенская, Сімбірская, Саратаўская.

Вялікая выкурка на 100 дзесяцін пахаці, сярэдніх разьмераў гадавая выкурка на 1 завод, значны процант прамысловых і мяшаных заводаў, паніжэньне проценту бульбы ў сырызьне і павялічэньне проценту хлебных матар'ялаў і патакі—вось характарыстыка гэтага раёну ў параўнаньні з першым.

Трэба адзначыць, што гэты раён не зьяўляецца такім аднародным, як першы, тут можна вылучыць першых пяць губэрань (2б), якія адрозьніваюцца тым, што ў значнай меры (15-51 %%) будуюць свой бровар на патацы за кошт бульбы, тады, як астатнія губэрні, за выключэньнем Варонежскай і Саратаўскай, у якіх вялік процант хлебных прыпасаў, больш налягаюць на бульбу. Пры гэтым,—Варонежская, Саратаўская і Палтаўская г. г. адносяцца да губэрань з сярэдняй інтэнсыўнасьцю, а Харкаўская губэрня адносіцца да высока інтэнсыўных губэрань і вялікай выкуркі на 1 завод.

Ня гледзячы на такую неаднароднасьць, абумоўленаю географічнаю раскіданасьцю губэрань, усе губэрні гэтага раёну маюць аднакавую характарыстыку ў тым, што ў іх памысная сувязь браварніцтва з сельскаю гаспадаркаю парушана як удзелам патакі, так і павышэньнем у сырызьне % хлебных матар'ялаў за кошт бульбы; тып бровару тут больш прамысловы.

Інтэнсыўнасьці разьвіцьця браварніцтва ў гэтым раёне спрыялі— у першых пяці губэрнях разьвіцьцё бурачна-цукравой прамысловасьці, для адкідаў якой бровар быў рынкам, а ў астатніх губэрнях—іх гістарычна складзены чыста земляробчы тып, які, дзякуючы параўнаўча кепскім рыначным умовам, усякім няспрыяючым коньюнктурным пахілам штурхаўся на шлях тэхнічнай пераапрацоўкі прадуктаў сельскае гаспадаркі.

**3 раён.**—Раён сярэдня-інтэнсыўнага, сельска-гаспадарчага браварніцтва.

Сюды ўваходзюць г. г.: Смаленская, Віцебская, Пскоўская, Пецярбурская, Наўгародзкая, Цьвярская, Валагодзкая.

У гэтым раёне, пры сярэдняй інтэнсыўнасьці, малы сярэдня-гадавы выраб на адзін завод, даволі вялікі процант бульбы ў сырызьне і адсутнічаюць прамысловыя заводы (акрамя г. г.—Цьвярской, дзе гэты % даходзіць да 4,3 і Валагодзкай, якая разам з Наўгародзкай губэрняю адносяцца да губэрань слабай інтэнсыўнасьці і аднесены ў гэты раён як па сваёй географічнай належнасьці, так і па да-

волі сходнаму сырызнаму грунту) у чым, як відна, вызначальную ролю мае вялічыня заводу.

**4 раён.**—Раён сярэдняй інтэнсыўнасьці і мяшанага тыпу бровару.

У гэты раён уваходзяць г. г.: Калужзкая, Маскоўская, Уладзімірская, Яраслаўская, Кастрамская, Ніжагародзкая, Вяцкая, Казанская, Самарская, Орэнбурская, Уфімская, Пермская.

Пры сярэдняй інтэнсыўнасьці гэты раён мае сярэдні і вялікі разьмер сярэдня-гадавой выкуркі на 1 завод, значнае памяншэньне % бульбы і павялічэньне % хлебных матар'ялаў у сырызьне, вялікі % прамысловых і мяшаных заводаў.

Гэта раён, дзе, як відаць, бульба або знаходзіць непасрэдны збыт на рынку (Маскоўская і др. прамысловыя губэрні), або яе там зусім мала, дзякуючы кліматычным і др. умовам (Пермская, Уфімская і др. г. г.).

Сувязь гэтага раёну браварніцтва з сельскаю гаспадаркаю зусім малая.

**5 раён.**—Гэты раён слабай інтэнсыўнасьці і мяшанага тыпу бровару.

Уваходзяць сюды г. г. Бесарабская, Херсонская, Кацярынаслаўская, Таўрыцкая, Данская.

Слабая і сярэдняя інтэнсыўнасьць, вялікі і сярэдні гадавы выраб на 1 завод, зусім нязначны ўдзел бульбы і патакі ў сырызьне, вялікі % прамысловых і мяшаных заводаў—вось характэрныя рысы гэтага раёну.

Гэта раён тыповага прамысловага, збожжавага бровару, раён браварніцтва адарванага ад сельскае гаспадаркі.

**6 раён.**—Архангельская губэрня.

Гэты раён, па ўсіх сваіх асаблівасьцях у адносінах да сельскае гаспадаркі, найбольш падыходзіць да пятага раёну і стаіць паасобку толькі дзякуючы сваёй географічнай адрозьненасьці.

Розьніца яго ад пятага раёну захоўваецца толькі ў тым, што ён мае бальшую інтэнсыўнасьць у адносінах да пахаці, але гэта—выпадковасьць выключных кліматычных умоў Архангельскай губэрні.

Тут маецца толькі адзін завод, пабудаваны ў самом Архангельску, на выключна збожжавай сырызьне, так што тут аб гаспадарчай сувязі і інтэнсыўнасьці нават і мяркаваньняў быць ня можа; тут поўны адрыў ад сельскае гспадаркі і пабудован завод, як відаць, орыентуючысь на рынак збыту сьпірытусу.

---

Такім чынам, мы ўстанавілі 6,—ці больш пэўна 5 тыпаў броварнае прамысловасьці, кожны з гэтых тыпаў складае раён з прыблізна аднолькавым характарам бровару, як па інтэнсыўнасьці, так і па сувязі з сельскаю гаспадаркаю ў сэнсе памыснага ўплыву на яе культуру. З разгляду раёнаў можна заўважыць надзвычайна вялікую ролю, у пабудоўлі таго ці іншага тыпу бровару, характару сырызны. Мы можам канстатаваць, што інтэнсыўнасьць разьвіцьця бровару і сувязь апошняга з сельскаю гаспадаркаю павялічваецца з павялічэньнем удзелу бульбы ў сырызным грунце.

---

## 4. Асаблівасьці даваеннага браварніцтва на тэрыторыі сучаснай БССР у параўнаньні з даваенным браварніцтвам усяе Расіі.

Агульныя рысы характару броварнае прамысловасьці трох губэрань (Віцебскай, Менскай, Магілеўскай), складаючых тэрыторыю сучаснай БССР, уяўляюцца з пагубэрнскага раёнаваньня.

Мы бачылі, што Менская і Магілеўская губэрні ўваходзяць у 1-шы раён (падраён 1а), а Віцебская губэрня ўваходзіць у 3-ці раён.

Браварніцтва Віцебшчыны адрозьніваецца ад браварніцтва Меншчыны і Магілеўшчыны толькі па інтэнсыўнасьці і вельмі блізка да яго па вялічыні заводаў і сырызнаму грунту.

Больш поўнае ўяўленьне асаблівасьцяў браварніцтва на тэрыторыі сучаснай БССР, у параўнаньні з браварніцтвам усяе Расіі, даюць даныя—па адноснай вазе, узросту, вялічыні заводаў і сырызьне.

Так, адносная вага броварнае прамысловасьці сучаснай БССР у браварніцтве ўсяе Расіі ясна выяўляецца ў даных табліцы № 5.

*Табліца № № 5.*

| ПЭРЫОДЫ | Лік заводаў | | Выраб у тыс. вядзёр 40% сьпірытусу | | % % удзел суч. БССР | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Расія | Суч. БССР | Расія | Суч. БССР | заводы | Выраб |
| 1884—5 г. . . . | 2.287 | 268 | 78 504 | 3.299 | 11,7 | 4,1 |
| 1912—13 г. . . . | 2.969 | 425 | 123 251 | 9.900 | 14,3 | 8,2 |

Акрамя адноснай вагі броварнай прамысловасьці суч. БССР у броварнай прамысловасьці ўсяе Расіі з табліцы заўважваем, што: 1) узрост ліку заводаў на Беларусі ішоў хутчэй, чым у сярэднім па ўсёй Расіі, гэты ўзрост па ўсёй Расіі ровен 29 проц., а на Беларусі—58 проц.

2) Працэс концэнтрацыі меў месца і на Беларусі, што можна заўважыць—а) з вышэй прыведзенай табліцы № 5 на нераўнамернасьці ўзросту выррабу і ліку заводаў і

б)—па ўзросту сярэдня-гадавога выррабу на 1 завод, аб чым сьведчыць табліца № 6.

*Таб. 6.*

| Пэрыоды | Сярэдня-гадавы выраб на 1 завод у тысячах вядзёр 40% сьпірытусу. | |
|---|---|---|
| | Расія | суч. БССР |
| 1884-5 г. | 32,9 | 12,3 |
| 1903-4 г. | 34,3 | 18,0 |
| 1912-13 г. | 45,5 | 20,9 |

Калі параўнаем тэмп концэнтрацыі заводаў Расіі і Беларусі, то атрымаем такі малюнак (таб. № 7):

*Табліца № 7.*

| ПЭРЫОДЫ | Расія | | Суч. БССР | |
|---|---|---|---|---|
| | % % | + | % % | + |
| 1884—5 г. | 100 | 0 | 100 | 0 |
| 1903—4 г. | 104,2 | 4,2 | 146,3 | 46,3 |
| 1912—13 г. | 138,3 | 38,3 | 169,9 | 69,9 |

Як бачым з гэтае табліцы, тэмп концэнтрацыі на Беларусі значна вышэй за тэмпу концэнтрацыі ў Расіі.

Але, ня гледзячы на такі тэмп концэнтрацыі, заводы на Беларусі значна менш (таб. № 6) заводаў Расіі.

У сувязі з апошнім надзвычайна цікава параўнаць браварніцтва на Беларусі з браварніцтвам усяе Расіі па сырызьне.

Апрыорна можна сказаць, што роля бульбы ў сырызьне будзе павялічвацца з павялічэньнем разьмеру заводаў і гэта, як нельга ляпей, сьцьвярджаецца данымі табліцы № 8.

*Табліца № 8.*

| Род матар'ялаў | 1903—4 г. | | 1907—8 г. | | 1912—13 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Расія | суч. Бел. | Расія | суч. Бел. | Расія | суч. Бел. |
| Збожжа . . . . | 47,8 | 38,0 | 34,1 | 18,1 | 38,0 | 22,0 |
| Бульба . . . . | 45,2 | 62,0 | 54,4 | 81,9 | 49,8 | 78,0 |
| Патака . . . . | 7,0 | — | 10,8 | — | 12,2 | — |

Такім чынам, даваенная броварная прамысловасьць на тэрыторыі сучаснай БССР зьяўляецца:

1) пабудаванай у выглядзе дробных заводаў і
2) у пераважнасьці бульбянай броварнай прамысловасьцю.

Характарыстыка, даная раней раёну № 1, найбольш выразна адбіваецца на тэрыторыі 3-х губэрань этн. Беларусі, складаючых тэрыторыю сучаснай БССР.

## 5. Броварныя раёны на тэрыторыі сучаснай БССР з 1884 да 1912 году.

Такія ёсьць агульныя рысы характару броварнае прамысловасьці Беларусі, вынікаючыя з пагуберскага раёнаваньня.

Апошняе, даючы дакладнае агульна-пазнаваўчае ўяўленьне аб лёкалізацыі броварных раёнаў, зьяўляецца не дастатковым для галоўнае мэты гэтае працы—вызначэньне канкрэтных асаблівасьцяў штандорту броварнае прамысловасьці на Беларусі.

## Мапаграма № 4 [1)]




[1)] Назвы паветаў гл. дадатак, таб. № 3

[2)] Бравармiцтва адсутнiчае.

Апошняя задача тым больш дакладна будзе выканана, чым больш дробным будзе раёнаваньне, але тут мы зноў-ткі абмяжаваны павятовымі данымі.

Акрамя таго, мы ня маем непасрэдна сырызных даных па паветах і таму, аб прасторавай дыферэнцыяцыі броварніцтва па сырызьне, можна мяркаваць толькі па даных аб вялічыні заводаў.

Даныя-ж аб інтэнсыўнасьці зьяўляюцца больш дакладнымі і таму мы бярэм іх за аснову пры па-павятовым раёнаваньні броварнае прамысловасьці на Беларусі.

Па даных аб інтэнсыўнасьці, вызначаных на 100 дзесяцін пахаці, і па даных аб вялічыні броварных заводаў, вызначаных вялічынёю гадавой выкуркі на 1 завод (гл. дадатак, таб. № 3), мы можам, карыстаючысь мэтадам апісаным пры пагубэр. раёнаваньні, вызначыць на тэрыторыі сучаснай БССР 3 раёны броварніцтва.

Характарыстыку гэтых раёнаў па аддзельных г. г. дае табліца № 9 і мапаграмы №№ 4, 5, 6.

*Табліца № 9.*

| №№ Раёнаў | 1884 г. (мапаг. № 4) | | 1897 г. (мапаг. № 5) | | 1912 г. (мапаг. № 6) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | выраб у тыс. руб. на 100 дзесяцін пахаці | сярэдня-гадавы выраб на 1 завод | выраб у тыс. руб. на 100 дзесяцін пахаці | сярэдня-гадавы выраб на 1 завод | выраб у тыс. руб. на 100 дзесяцін пахаці | сярэдня-гадавы выраб на 1 завод |
| 1. | —25 | — 5 | —25 | — 5 | —100 | —20 |
| 2а | 25—50 | — 5 | 25—50 | 5—10 | 100—200 | 20—25 |
| 2б | 25—50 | 5—10 | | | | |
| 3а | >50 | 5—10 | >50 | 5—10 | >200 | >25 |
| 3б | >50 | >10 | | | | |

Вызначаныя ў мапаграмах (№№ 4, 5, 6) і табліцы № 9 раёны па іх адноснай інтэнсыўнасьці можна назваць:

1-шы раён—малаінтэнсыўны,

2-гі раён—сярэдня-інтэнсыўны,

3-ці раён—высокаінтэнсыўны.

Колькаснае павышэньне інтэрвалаў для 1912 году абумоўлена агульным падняцьцём інтэнсыўнасьці броварніцтва.

Адносна ролі бульбы ў сырызьне аддзельных броварных раёнаў можна толькі сказаць, што павялічэньне або памяншэньне яе адноснай ролі можна паставіць у залежнасьць ад адноснага памяншэньня або павялічэньня разьмераў заводаў, на падставе чаго і вызначаны асобныя падраёны (2а, 2б, 3а, 3б).

Больш падрабязна застанавіцца на гэтым вельмі важным пытаньні на жаль ня можна за адсутнасьцю даных.

Як бачым, даваенная броварная прамысловасьць Беларусі размяшчалася па інтэнсыўнасьці з Поўдню на Поўнач даволі ўстойлівымі (за нязначнымі выключэньнямі), па сваёй лёкальнасьці, раёнамі.

## ЧАСТКА II.

### 6. Штандортные асаблівасьці броварнае прамысловасьці.

Як пытаньні, зьвязаныя з даваенным географічным размяшчэньнем броварнае прамысловасьці на тэрыторыі Эўропэйскай Расіі наогул і на тэрыторыі этнографічнай Беларусі ў прыватнасьці, так і пытаньні, зьвязаныя з сучасным плянаваньнем прасторавага размяшчэньня броварных заводаў,—упіраюцца непасрэдна ў іх тлумачальны грунт—тэорыю прамысловага раёнаваньня А. Вэбэра.

Гэтая тэорыя, як вынік вялікага экономічнага спрактыкаваньня капіталістычнага разьвіцьця, зьявіўшыся (у канчатковым афармленьні) у 1909 годзе, дала тлумачэньні тым перамяшчэньням прамысловых цэнтраў, якія адбываліся ў капіталістычнай гаспадарцы пад уплывам концэнтрацыі, у сваю чаргу абумоўленай разьвіцьцём тэхнікі паміжнародных зносін і складзенай на іх грунце сусьветнай гаспадаркі.

Але тлумачэньнем такіх зьявішч капіталістычнае гаспадаркі, як напрыклад: перамяшчэньне прамысловых цэнтраў у Нямеччыне, або перамяшчэньне прамысловасьці сталёвага трэсту ў Амэрыцы і г. д.—значэньне гэтае тэорыі не абмяжавалася, яна зьвілася магутнаю мэтодолёгічнаю прыладаю для сьвядомага накіраваньня гаспадарчых працэсаў, зьвязаных з прамысловым раёнаваньнем.

Штандортызацыя таго або іншага прадпрыемства, заводу і інш., ёсьць сьвядомае прыстасаваньне да сумы фактараў, уяўляючых сабою нішто іншае, як карысьць, якую атрымоўвае прадпрыемства, дзякуючы таму, што яно знаходзіцца іменна тут, а ня ў іншым месцы.

Гэтая карысьць, кіруючая штандортам, складаецца з двух частак: 1) з мажлівасьці зрабіць на даным месцы больш танным сабекошт вытвору і 2) зрабіць больш таннай вартасьць збыту; інакш кажучы, гэта карысьць зьмяшчаецца ў памяншэньні сабекошту прадукту франка-рынак.

Сабекошт вытвору складаецца з многіх элемэнтаў, колькасна большая частка з якіх не залежыць ад месцапалажэньня.

Частка-ж элемэнтаў сабекошту, якія залежаць ад месцапалажэньня, у сіле свайго накіраваньня штандортызацыяй не аднолькавы для ўсіх відаў прамысловасьці і вызначаюцца іхнімі суадносінамі ў сабекошце прадукту.

Для вызначэньня галоўных артыкулаў сабекошту прадукцыі броварнае прамысловасьці скарыстаем даныя гадавых справаздач броварных заводаў за 1926-27 год. З апошніх бачым, што пры сярэдняй (з 50 заводаў) выкурцы на 1 завод роўнай 1.952.289 градусаў сьпірытусу мы маем наступны сярэдні склад сабекошту (таб. № 11).

*Табліца № 11.*

| № арт. | НАЗВА АРТЫКУЛУ | даныя па лі-ку заводаў | кошт | | у % % |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | руб. | кап. | |
| 1 | Сырызна . . . . . | 40 | 39.776 | 33 | 50,6 |
| 2 | Дапам. матар'ялы . . . . | 40 | 928 | 36 | 1,2 |
| 3 | Апал і электраэнэргія . . . | 40 | 6.866 | 59 | 8,7 |
| 4 | Заработная плата . . . . | 41 | 7.429 | 72 | 9,5 |
| 5 | Накладныя страты на працоўную сілу | 41 | 663 | 38 | 0,8 |
| 6 | Социяльнае страхаван е не . . | 40 | 10.957 | — | 14,0 |
| 7 | Іншыя налічэньні . . . . | 37 | 505 | 50 | 0,7 |
| 8 | Канц. і адміністр. страты . . | 39 | 3.020 | 12 | 3,9 |
| 9 | Страхоўка . . . . . | 26 | 545 | 61 | 0,7 |
| 10 | Амортызацыя . . . . . | 34 | 4.090 | 58 | 5,2 |
| 11 | % за крэдыт . . . . . | 7 | 1.051 | 93 | 1,3 |
| 12 | Падаткі і зборы . . . . | 36 | 1.069 | 92 | 1,3 |
| 13 | Іншыя страты . . . . . | 10 | 1.657 | 77 | 2,1 |
| | Усяго . . . . . | — | 78.562 | 81 | 100 |

Паглядзім-жа, якія з прыведзеных элемэнтаў сабекошту залежуць ад месцапалажэньня вытвору.

Першым элемэнтам сабекошту, які знаходзіцца ў залежнасьці ад месцапалажэньня вытвору, будзе — страты на ўсі сырызныя матар'ялы і апал (таб. № 11 арт. 1-2-3). Гэты элемэнт сабекошту будзе залежыць: 1) ад таго, які сырызны матар'ял мы будзем ужываць (бульба, зерня і якое зерня);

2) ад прасторавага хістаньня цэн у вадным і тым-жа сырызным матар'яле;

3) ад якасьці сырызнага матар'ялу пры адной і той-жа цане на яго.

Як відаць, найбольш танны від сырызнага матар'ялаў, скарыстоўваўемы ў найбольш дабраякасным выглядзе і з найбольш таннымі на яго цэнамі, дасьць эканомію—адзін з штандортных, прасторавых фактараў броварнае прамысловасьці.

Другім элемэнтам сабекошту, які залежыць ад месцапалажэньня вытвору, будзе—заработная плата або страты на рабочую сілу (4, 5, 6, 7, 8 арт. таб. № 11).

Наяўнасьць неабходнай колькасьці, належным чынам кваліфікаваных рабочых рук, наогул кажучы, розьніца ў просторы, а гэтая розьніца адбіваецца на заработнай плаце (дыферэнцыруя апошняе) і тым самым на сабекошце прадукту.

Такім чынам, вытворчасьць прыстасаваная да пункту з таннай рабочаю сілаю, дае таксама эканомію ў сабекошце, як другі штандортны, прасторавы фактар броварнае прамысловасьці.

Трэцім элемэнтам сабекошту сьпірытусу, элемэнтам, які залежыць ад месцапалажэньня, будзе—страты па транспарту сырызны і гатовага прадукту. Страты па гэтаму сабекошту не прыведзены ў таб. № 11, бо ў скарыстоўваемых мною матар'ялах яны не паказаны, як асобны артыкул, а аб'яднаны з стратамі на сырызну наогул,—рэдуцыраваны да цаны на апошнюю. Дзякуючы гэтаму мы можам сказаць, што найбольш танны род сырызнага матар'ялу, скарыстаны ў найбольш добраякасным выглядзе і па найбольш танным цэнам, дасьць некаторую эканомію ў сабекошце толькі тады, калі яго скарыстаньне будзе праводзіцца як-раз у пунктце танных цэн, інакш гэтая эканомія будзе паралізавацца транспортнымі стратамі на перавозку сырызны.

Гэтыя тры элемэнты сабекошту і складаюць сабою ўсі рэгіональныя фактары як для броварнае прамысловасьці ў больш падрабязным іх разгортваньні, так і агульныя, якія ўласьцівы кожнаму віду прамысловасьці, толькі ў больш зьвернутым іх разуменьні.

Астатнія артыкулы сабекошту (9, 10, 11, 12, 13) не праяўляюць хоць колькі-небудзь адчуваемай залежнасьці ад месцапалажэньня і таму мы будзем іх ігнараваць.

Цяпер, адшукаўшы штандротные фактары, трэба разглядзець, у якіх суадносінах яны рэалізуюцца для броварнае прамысловасьці або, якія з гэтых трох відаў эканоміі зьяўляюцца вызначальнымі і адгэтуль устанавіць характар орыентацыі данага віду прамысловасьці.

Вазьмём такі штандортны фактар, як страты на сырызну і паліва, рэдуцыруем у цану на апошнія, другі штандортны фактар— транспортные страты і будзем разглядаць іх сумесна.

Гэты элемэнт сабекошту, як мы ўжо бачылі, можа быць дыферэнцыраван па ліку спажываемых відаў сырызны і паліва, а гэта азначае, што ён можа мець шэраг матар'яльных складаў (месца здабываньня як сырызны, так і энэргэтычных матар'ялаў).

Таму перш за ўсяго выдзелім групу спажываемых матар'ялаў, якія зьяўляюцца паўсемеснымі хаця-б для нашых умоў Беларусі. Да гэтае групы, паўсемесных матар'ялаў, адносіцца апал (дровы), які можа быць выключаны з падрахунку, як ня маючы ў даным выпадку ніякага значэньня пры штандортызацыі. Газа, ужываемая на асьвятленьне і на іншыя патрэбы, або наогул энэргія асьвятленьня і дапамагальныя матар'ялы (дрожджы і інш.), якія займаюць зусім нязначны ўдзел у сабекошце, а таксама частка з якіх (з дапамагальных матар'ялаў) зьяўляюцца паўсямеснымі, зноў-ткі могуць быць выключаны з падрахунку.

Застаецца, такім чынам, толькі адна сырызна (таб. № 11 арт. № 1). Як мы ўжо сказалі раней, вялічыня страт, а значыцца і эканомія на сырызьне будзе залежыць:

1) ад роду сырызны,
2) якасьці апошняй і
3) цэн на сырызну.

У перакладзе на больш практычную мову гэта будзе азначаць, што нам трэба выбраць:

1) сырызны матар'ял паміж бульбаю і збожжам або ўстанавіць у іх суадносіны належны, найбольш рацыянальны, стандарт;

2) устанавіць належные стандарты сартавыя, скажам, па зьместу крухмалю;

3) знайсьці прасторавы пункт, дзе-б можна было найбольш танна здабываць гэтую стандартную сырызну.

Вырашэньне пытаньня аб рацыянальнасьці паасобных відаў сырызнага грунту можна правесьці, як праз норматыўны разьлік сабекошту сьпірытусу, атрыманага з розных відаў сырызны, так і праз падрахунак даных з практыкі існуючых броварных заводаў.

Паколькі норматыўны разьлік зьяўляецца больш складаным і менш дакладным, чым жывая сапраўднасьць, то зьвернемся да апошняй.

Перш за ўсё зьвернемся да непасрэдных цэннастных суадносін паміж рознымі відамі сырызных матар'ялаў браварніцтва. Для гэтага параўнаньня вазьмём бульбу, кукурузу і сумарна іншыя зярнёвые, перакладзём іх у колькасна параўнальные адзінкі (параўнаньне па выхаду сьпірытусу) і атрымаем кошт 1 тонны розных матар'ялаў, з іх сумарных коштаў, паказаных па заводах.

Зрабіўшы падобныя вылічэньні, мы атрымаем для паасобных акруг наступныя даныя (таб. № 12):

*Табліца № 12.*

| Пар. №№ | АКРУГА | Кошт 1-е тонны ў рублях | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Бульба | Кукуруза | Інш. зярнёвыя |
| 1 | Аршанская . . . | 75,3 | 82,0 | 85,3 |
| 2 | Магілеўская . . . | 65,2 | 63.7 | 83,8 |
| 3 | Менская . . . | 70,8 | 70.0 | 74,0 |
| 4 | Гомельская . . . | 68,0 | 50.0 | 52,6 |
| 5 | Бабруйская . . . | 52,4 | 70,0 | 184,0 |
| 6 | Віцебская . . . | 60.0 | 75,6 | 73,3 |
| 7 | Мазырская . . . | 65,2 | 65.1 | 91,0 |
| | Па БССР . . | 64,3 | 64,9 | 82,8 |

Як бачым, назіраецца хістаньне цэн як ва ўзаемаадносінах паміж паасобнымі матар'яламі, так і ў адным і тым-жа матар'яле для розных акруг.

Не імкнучыся да падрабязнага тлумачэньня падобнага зьявішча адзначым толькі, што хістаньне цэн на броварную сырызну залежыць у даным выпадку, як ад спосабу загатоўкі яе, так і ад геаграфічнага разьмяшчэньня аддзельных акруг у адносінах да сырызны, што асабліва яскрава адбіваецца на кошце 1-е тонны кукурузы, якая прывозіцца з Поўдню і ў Гомельшчыне каштуе 50 руб., а ў Аршан-

шчыне 82 руб., Віцебшчыне 75,6 руб. і г. д. Вызначальную ролю тут павінна мець яшчэ адлегласьць заводу ад чугункі.

Па даных табліцы № 12 можна зрабіць такі вынік, што:

1) самым нерацыянальным матар'ялам для браварніцтва ўсіх акруг, акром Гомельскай, зьяўляюцца зярнёвыя;

2) для акруг: Аршанскай, Бабруйскай і Віцебскай найбольш рацыянальным сырызным матар'ялам з'яўляецца бульба;

3) для акруг: Магілеўскай, Менскай, Гомельскай і Мазырскай, наадварот, рацыянальным сырызным матар'ялам браварніцтва зьяўляецца кукуруза.

Але такі вынік пэвен толькі ў 1-ай частцы і то без агаворак для Гомельшчыны. Бо, разважаючы аб рацыянальнасьці паасобных відаў сырызны, мы не прынялі пад увагу розьніцы страт, як заводзкага абсталяваньня, так і працоўнае сілы, існуючай у залежнасьці ад сырызных матар'лаў, якая адбіваецца на сабекошце 1 градуса сьпірытусу.

Па колькі-ж сабекошт канчаткова адбівая экономічны эфэкт рацыянальнай організацыі вытворчасьці, то з яго, а ня з цэн на сырызну, і трэба пачынаць мяркаваньні аб рацыянальнасьці сырызнага грунту.

Зразумела, што ў даным выпадку сабекошт выбару будзе залежыць ня толькі ад сырызны. На ём будзе адбівацца яшчэ такі вялікі фактар, як вялічыня заводу і ступень яго тэхнічнага абсталяваньня, а таксама шэраг дробных фактараў, зьвязаных з рацыянальнасьцю організаванасьці прадпрыемства.

Але, ігнаруючы шэраг дробных фактараў, а таксама пакідаючы ў баку такі фактар сабекошту, як вялічыня заводу і яго тэхнічнае абсталяваньне—таму, што па данаму пытаньню мы ня маем эмпірычнага матар'ялу (тэорэтычна-ж мы на ём яшчэ застановімся ў далейшым),—сырызна будзе зьяўляцца вызначальным фактарам сабекошту сьпірытусу.

Так, калі мы зробім групоўку заводаў па сабекошту 1 градуса сьпірытусу і атрымаем сярэднія працэнтныя суадносіны сырызны па гэтых групах заводаў, то атрымаем наступныя радкі (таб. № 13):

*Табліца № 13.*

| Пар. №№ | Групы заводаў па сабекошту 1 град. сьпірытусу ў капейках | Лік заводаў у групе | %% суадносін сырызны | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Бульба | Кукуруза | Інш. зярнёвыя |
| 1 | да 3 | 2 | 79,5 | 12,8 | 7,7 |
| 2 | 3—3,5 | 12 | 67,2 | 23,3 | 9,5 |
| 3 | 3,5—4 | 7 | 63,2 | 28,6 | 8,2 |
| 4 | 4—4,5 | 13 | 58,5 | 32,8 | 8,7 |
| 5 | 4,5—5,0 | 5 | 53,9 | 35,9 | 10,2 |

З гэтае таблічкі яскрава вызначаецца:

1) памяншэньне процанта бульбы ў сырызьне разам з павялічэньнем сабекошту 1 градуса сьпірытусу;

2) павялічэньне проценту кукурузы разам з павялічэньнем сабекошту 1 град. сьпірытусу і

3) амаль-што ўстойлівы процант іншых зярнёвых.

Усё гэта азначае 1) што кукуруза, як і іншыя зярнёвыя, ударажае сабекошт 1 град. сьпірытусу і 2) што бульба, як сырызна, робіць больш танным сабекошт 1 град. сьпірытусу.

Інжэнэр С. Ф. Дрэўноўскі ў сваёй працы—«Исследование доходности винокуренных заводов наименшаго типа», яшчэ ў даваенныя часы, зрабіў норматыўны разьлік сабекошту 1 вядра 40 град. сьпірытусу ў залежнасьці ад сырызны і атрымаў наступныя даныя:

1) пры зярнёвай сырызьне сабекошт 1 вядра 40 град. сьпір. ровен 56,5—50,4 кап., а

2) пры бульбянай сырызьне—43,4—37,8 кап.

Такім чынам, лічбы (як норматыўныя з даваенных часоў, так і эмпірычныя з сучаснасьці) гавораць аб непасрэднай мэтазгоднасьці будаваць браварніцтва на бульбе.

Але ёсьць і шмат іншых уласьцівасьцяў бульбянага браварніцтва, хаця і пасрэднага характару, якія даюць яму перамогу над збожжавым нават і ў тым выпадку, калі-б абоя гэтыя віды браварніцтва займалі аднолькавыя адносіны да сабекошту. Разглядзім у кароткіх рысах гэтыя ўласьцівасьці бульбянага браварніцтва.

Мы ўжо бачылі ў першай частцы, што буйные земляўласьнікі даваеннай Расіі старалісь монополізаваць браварніцтва ў сваіх руках. Ажыцьцяўлялась апошняе праз розные законадаўчые акты, якія давалі перавагу сельска-гаспадарчаму бровару.

Броварная прамысловасьць, праз сельска-гаспадарчы тып заводаў, зьліжалась з сельскаю гаспадаркаю, робячы на культуру апошняй вялікі ўплыў пашырэньнем бульбы.

У нашых сучасных умовах БССР пашырэньне культуры бульбы зьяўляецца адным з самым галоўных элемэнтаў інтэнсыфікацыі земляробства.

Вельмі высокая працаёмкасьць бульбы зьяўляецца сродкам барацьбы з існуючай на Беларусі аграрнай перанаселеннасьцю, а размеркаваньне яе запатрабаваньняў на працоўныя рукі ў часу дае магчымасьць больш роўнамерна організаваць працу, запаўняючы «глухія» пэрыоды сельска-гаспадарчага году, як-то: Май, пачатак Чэрвеня і Верасень месяцы.

Вельмі важна і тая асаблівасьць бульбы, што яна дае мажлівасьць скарыстаць працу жанчын і дзяцей.

Акрамя таго, бульба робіць вельмі вялікі памысны ўплыў на глебу, накапляючы нітраты і вільгаць, ачышчаючы яе ад сурных (засьмечваючых) траў і, нарэшце, дае значна большы ўраджай на дзесяціну, чым зярнёвыя і тым самым дае большы прыбытак і лепшую аплату працоўнага дня.

Усе гэтыя выгады ад бульбы могуць быць тым паўней скарыстаны, чым больш будзе пашырана яе культура, а апошняе мажліва пры ўмовах наяўнасьці рынку збыту, які і дае разьвіцьцё броварнае прамысловасьці.

У выніку, усё гэта гаворыць за тое, каб браварніцтва будавалась выключна на бульбе, ня лічучы тых 6—10 проц. збожжа, якія неабходны для соладу.

Бульба, такім чынам, зьяўляецца найбольш рэнтабельным сырызным грунтам браварніцтва.

Далей, як было сказана, сабекошт сьпірытусу будзе залежыць яшчэ і, у рамках бульбяной сырызны, ад якасьці апошняй,—ад ступені прыгоднасьці яе для браварніцтва. Інакш кажучы, сабекошт сьпірытусу будзе тым таней, чым больш яго атрымоўваецца з данага затору, а гэта апошняе залежыць як ад тэхнічнага абсталяваньня заводу, так і ад проценту крухмалістасьці спажываемай бульбы.

Ступень тэхнічнага абсталяваньня ад месцапалажэньня не залежыць, а зьвязана гэтае пытаньне больш за ўсяго з пытаньнем аб вялічыні заводу, дзе і будзе больш дакладна разгледжана.

На колькі-ж зьяўляецца важным процант крухмалістасьці відна хаця-бы з таго, што 1 пуд бульбы з крухмалістасьцю ў 14 проц. дае 11,48 град. сьпірытусу, а тэй-жа пуд бульбы з крухмалістасьцю ў 22 проц. дае 18,05 град. сьпірытусу.

Але ня гледзячы на такую важнасьць гатунку бульбы мы ня маем даных для географічнага меркаваньня па гэтаму пытаньню. Палепшаньне-ж сартоў бульбы наогул, або вывядзеньне сьпэцыяльна броварных сартоў,—штодзённая задача нашых дасьледчых станцый і належных перадатачных, зацікаўленых у гэтай справе, організацый.

Цэны на бульбяную сырызну, як элемэнт сабекошту, бязумоўна, маюць прасторавую дыфэрэнцыяцыю і можна сказаць, што найбольш выгаднымі сырызнымі пунктамі будуць мясцовасьці сельска-гаспадарчыя і што гэтая выгада будзе зьмяншацца разам з набліжэньнем да прамысловых цэнтраў.

Апошняе мы можам з асобнаю яскравасьцю назіраць на прыкладзе такіх прамысловых цэнтраў, як Масква, Ленінград, Яраслаў і інш., дзе па дадзеных ЦСК за даваенные гады быў самы большы процэнт пасеву бульбы з параўнаўча нязначным разьвіцьцём бровару.

Вялікі процант бульбы ў гэтых прамысловых асяродках, асабліва ў Ленінградзкай губэрні (дзе процант бульбы ў 1912 годзе быў ровен 10,8, тады як у цэнтральнай чарназёмнай паласе ён раўняўся 7,3), зьяўляецца яскравым паказам яшчэ і таго, што ў разьвіцьці бульбы вызначальную ролю іграе наяўнасьць рынку.

Разьвіцьцё браварніцтва, акрамя таго, што яно дастаўляе рынак збыту для бульбы,—зьяўляецца надзвычайна цікавым у адносінах да характару скарыстаньня сырызны. Усе мінэральные складаныя часткі апошняй могуць быць, пры належным скарыстаньні барды, зьвернуты зноў глебе. А ў атрымоўваемы прадукт (сьпірытус) уваходзіць толькі вугаль (С), які нават расьліны не бяруць з глебы.

Такім чынам устанаўліваецца надзвычайна цікавы від сельска-гаспадарчага гандлю за рахунак паветры, а не за рахунак звычайнага парушэньня багацьця глебы.

Акрамя гэтага, адкіды бровару—барда зьяўляецца надзвычайна каштоўным кормам і таму можа служыць грунтам для разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Інтарэсы броварнае прамысловасьці, як бачым, вельмі шчыльна зьвязваюцца з інтарэсамі сельска-гаспадарчае культуры. Але поўнае ажыцьцяўленьне гэтых узаемных інтарэсаў можа быць толькі пры умовах, калі браварніцтва зьвязана з вытварам бульбы тэрытарыяльна, бо бульба, як сырызна, а барда, як такі каштоўны адкід, зьяўляюцца, амаль-што абсалютна, нетранспортабельнымі. Гэтая нетранспортабельнасьць абумоўліваецца як вялікаю і грамоздзкаю вагаю ў адносінах да цаны, так кепскім захаваньнем і інш. Асабліва гэта

адносіцца да барды, скарыстаньне якой жывёлам раіцца ў цёплым выглядзе, інакш яна становіцца нават шкоднаю.

Можна яшчэ прывесьці некалькі меркаваньняў на конт мэтазгоднасьці разьмяшчэньня броварных заводаў у вясковых сырызных пунктах, як напрыклад:

1) броварные заводы працуюць зімою, а гэта дае мажлівасьць як больш роўнамернага размеркаваньня працы ў сельскай гаспадарцы (асабліва ў савецкіх і колектыўных гаспадарках, пры якіх у большасьці працуюць гэтыя заводы), так і наогул пасьлабіць беспрацоўе зімовага часу ў вёсцы;

2) броварные заводы, аб'яднаючы навакол сябе цэлы шэраг прыватнаўласьніцкіх сялянскіх гаспадарак, праз контрактацыйныя ўмовы і г. д., могуць кіраваць як організацыйна-тэхнічным бокам гэтых гаспадарак, так іх коопэраваньнем і нават гаспадарчай структурай наогул.

Усё гэта наперад вызначае сабою размяшчэньне броварных заводаў як-раз у сырызных раёнах (матар'яльных складах) і пры гэтым у іх бульбянай частцы. Трэба толькі разглядзець на колькі гэты вынік, абумоўлены характарам самае сырызны, адказвае запатрабаваньням транспортнае орыентацыі па данаму віду прамысловасьці.

У гэтым пытаньні задача зводзіцца да таго, каб скараціць сабекошт у суме ўсіх перавозак (сырызна+гатовы прадукт), а гэта азначае: знайсьці такі пункт штандорту, які-б зьяўляўся пунктам транспортнага мінімуму страт.

Гэты пункт можа быць: 1) або на рынку збыту, 2) або ў тым ці іншым матар'яльным складзе, 3) або ён будзе рухомым і прадпрыемства можа будавацца ў любым месьце.

Усе гэтыя тры выпадкі залежуць ад вялічыні матар'яльнага індэксу (які выражая сабою адносіны вагі лёкалізаваных матар'ялаў да вагі прадукту) і тарыфнай платы.

Так, у прамысловасьці, матар'яльны індэкс якой ровен 1-цы, штандортны пункт будзе рухомым.

Прамысловасьць, з матар'яльным індэксам больш 1-кі, будзе орыентавацца на матар'яльны склад (месца здабываньня сырызны і энэргетычных матар'ялаў), а, пры наяўнасьці некалькіх матар'яльных складаў, выбар орыентацыі паміж апошнімі будзе залежыць ад удзельнай вагі транспортных страт па паасобных відах сырызны.

І, нарэшце, прамысловасьць, з матар'яльным індэксам менш 1-кі, будзе мець орыентацыю на рынак збыту.

Прымаючы пад увагу, што броварная сырызна, у розных сваіх відах, зьяўляецца лёкалізаваным матар'ялам (бо яе нават і ўсюдунахадзімасьць не дае яшчэ права гаварыць, як гэта робіцца А. Вебэрам, аб паўсямеснасьці ў сэнсе сырызнай прамысловай базы),—вылічым матар'яльны індэкс для броварнае прамысловасьці.

Для гэтага возьмем сярэдні (з 10) завод з вырабам 1.559.128 град. сьпірытусу.

Пры розных суадносінах у сырызьне, як відна, розным будзе і матар'яльны індэкс,—з некаторым зьніжэньнем пры большым процанце збожжа.

Так, калі завод будзе працаваць на бульбе, то,—прымаючы пад увагу, што 1 пуд бульбы, пры 20 проц. зьмесьце крухмалю і пры 88 проц. (ад тэорытэчнага) выхадзе сьпірытусу, дае апошняга 16,8 град., а таксама, прымаючы пад увагу, што на ўсю патрэбную бульбу неабходна 6 проц. соладу (С. Ф. Дрэўноўскі, паказаная раней

праца, а таксама И. И. Пересвет-Солтан, Справочная книжка русского агронома),—выкурка паказанай колькасьці сьпірытусу патрабуе наступнай колькасьці сырызных матар'ялаў:

| | |
|---|---|
| бульбы . . . . . | 87.237 пудоў |
| соладу . . . . . | 1 560 „ |
| усяго . | 88.797 „ |

Далей, прымаючы удзельную вагу атрымоўваемага ў сярэднім 85 проц. сьпірытусу за 0,85, а вядро вады (удзельная вага якой бярэцца за адзінку) роўным 36 фунтам,—мы будзем мець вагу вядра сьпірытусу роўнай 36×0,85=30,6 фун., а адгэтуль вага ўсяго сьпірытусу (1.559.128 град. або $\frac{1.559.128}{40}$ = 38.978,2 вядры) будзе роўна— 38.978,2×30,6=1.192.743 фун. або 29.818,5 пудоў.

Адгэтуль, матар'яльны індэкс броварнага заводу, які працуе на бульбе, будзе ровен — $\frac{\text{Вага лёкалізав матар'ялаў}}{\text{Вага прадукту}} = \frac{88.797}{29.818,5} = 2,97.$

Калі-ж завод будзе працаваць не на бульбе, а на збожжы, то зноў-ткі,—прымаючы пад увагу, што 1 пуд жыта, пры 60 проц. зьмесьце крухмалю і пры 88 проц. (ад тэорытычнага) выхадзе сьпірытусу, дае апошняга 50,4 град. і што тут таксама неабходна 6 проц. соладу,—мы будзем мець наступную колькасьць сырызных матар'ялаў:

| | |
|---|---|
| жыта . . . . . . . . . | 28.930 пудоў |
| соладу . . . . . . . . . | 1.551 „ |
| усяго . . . . | 30.481 „ |

Адгэтуль, матар'яльны індэкс броварнага заводу, які працуе на збожжы, будзе ровен — $= \frac{30.481}{29.818,5} = 1,02$

Адначасова вылічым матар'яльные індэксы для заводаў, пераапрацоўваючых сьпірытус сырец,—рэкціфікацыйных і для заводаў, вырабляючых гарэлку ўжо з рэкціфікату,—гарэлачных заводаў. Пры гэтым будзем выходзіць з наступнага:

1) Возьмем для пераапрацоўкі тых-жа 1.559.128 град., або 29.818,5 пудоў, сьпірытусу сырцу, аб'ём якога равен 85 проц., а ўдзельная вага (пры гэтым аб'ёмным процанце) 0,85. Адкіды пры рэкціфікацыі роўны 1,5 проц.

2) Рэкціфікат прымем у аб'ёмным процанце роўным 95 проц., а ўдзельную вагу за 0,81.

3) Аб'ёмны процант гарэлкі прымем за 40 проц., а ўдзельную вагу роўнай 0,95.

4) Усі дапамагальные матар'ялы будзем ігнараваць. Пры гэтым разьлік будзе такі.

Пры рэкціфікацыі траціцца сырцу 1,5 проц. (Проф. Лялин, Краткое руководство по винокурению, ст. 189), што ад 1.559.128 град. складзе 23.587 град., астача будзе роўна 1.535.541 град.

Гэтая рэшта прымае аб'ём роўным 85 проц., або— $= \frac{1.535.541}{85} =$ 18.065 вядзёр 85 проц. сьпірытусу, пры ўдзельнай вазе ў 0,81, або 36×0,81=29,16 фун. вядро, адгэтуль агульная вага рэкціфікату будзе роўна 18.065×29,16=526.775 фун. або 13.165 пудоў, а матар'яльны індэкс рэкціфікатнага заводу будзе ровен— $= \frac{29.818,5}{13.165} = 2,26$

Атрыманы рэкціфікат у ліку 1.535,541 град. ідзе на выраб гарэлкі, якая мае аб'ёмны процант роўным 40 проц. Адгэтуль мы будзем мець

$=\frac{1.535.541}{40}=38.388{,}5$ вядзёр 40 град. сьпірытусу, пры ўдзельнай вазе роўнай 0,95 або $36 \times 0{,}95=34{,}2$ фун. вядро, або $38.388{,}5 \times 34{,}2=$ $=32.822$ пуда ўсяе гарэлкі. А матар'яльны індэкс гарэлачнага заводу будзе ровен $\frac{13.169}{32.822}=0{,}40$.

Такім чынам мы маем матар'яльныя індэксы роўнымі:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | для броварнага заводу, які працуе на бульбе . . . | 2,97 |
| 2. | „ „ „ „ „ „ збожжы . . | 1,02 |
| 3. | „ рэкціфікатнага заводу . . . . . . . . . . . . . . . | 2,26 |
| 4. | „ гарэлачнага заводу . . . . . . . . . . . . . . . . | 0,40 |

Атрымаўся малюнак, які дае міжлівасьць на эмпірычных даных падмацаваць, раней выказаную, тэорытычную думку аб залежнасьці штандорту паасобных відаў прамысловасьці ад іх матар'яльных індэксаў.

Але трэба толькі памятаць, што матар'яльные індэксы, даючы параўнаньне ваг, зьяўляюцца дастатковымі толькі для абстрактных разважаньняў, а для канкрэтных мэт яны павінны прывадзіцца разам з тарыфнымі стаўкамі, або на падрахунку апошніх, для сырызны і гатовага прадукту.

Па гэтаму пытаньню міжліва меркаваць наступным чынам:

1) Для броварных заводаў, якія працуюць на бульбе, сырызна займае значна большае месца і па кошту перавозкі ў сувязі з тым, што:

а) пры гэтых перавозках, як бульбы на броварны завод, так і сьпірытусу з броварнага заводу на рэкціфікацыйны, карыстаюцца пераважна гужавым транспортам, які ня мае дыферэнцыраванага тарыфу і

б) нават пры скарыстаньні чыгуначнага транспорту таная перавага ляжыць таксама на баку перавозкі сьпірытусу і ня толькі адносна да масы, але і абсалютна, па транспортабельнасьці.

2) Броварные заводы, якія працуюць на збожжы і маюць матар'яльны індэкс роўным 1,02, пры карыстаньні гужавым транспортам, будуць мець амаль-што роўнавагу ў стратах на перавозку сырызны і прадукту, але, пры карыстаньні чыгуначным транспортам, страты на перавозку прадукту будуць значна вышэй, чым страты на перавозку сырызны.

Гэтае павышэньне страт на перавозку прадукту (сьпірытусу) абумовіцца, як вагаю тары, так і павышаным тарыфам. Таму падобнага тыпу заводы павінны будавацца ў гарадох.

3) Транспортные страты ў рэкцыфікацыйных заводах будуць аднолькавы як для прадукту, так і для сырызны, а таму гэтыя заводы, як маючые матар'яльны індэкс роўным 2,26, павінны будавацца выключна ў матар'яльных складах.

4) Для транспортных страт па гарэлачнаму заводу мы будзем мець таксама роўнавагу па стратах на сырызну і гатовага прадукту, а гэтыя заводы, як маючы матар'яльны індэкс роўным 0,4, павінны будавацца выключна ў пунктах рыначнага збыту гарэлкі.

Броварные заводы, якія працуюць на бульбе і маюць матар'яльны індэкс роўным 2,97, маюць два матар'яльных склады (бульбу і збожжа), а таму пытаньне аб штандорце гэтых заводаў павінна вырашацца паміж гэтымі складамі.

Але тут пытаньне значна спрашчаецца тым, што па-першае, збожжа спажываецца нязначны процант (6) толькі для соладу, а па-другое, што, як мы бачылі, перавазіць збожжа, як сырызну, пры карыстаньні

чугуначным транспортам, нават таней, чым гатовы прадукт сьпірытус. Таму і працяг разгляду пытаньня, аб выбару штандорту броварных заводаў паміж двумя матар'яльнымі складамі, можа быць цікавым толькі з мэтодолёгічнага боку. Паколькі-ж падобны разгляд гэтага пытаньня будзе зьяўляцца чыста абстрактным, то мы яго зусім апускаем.

Такім чынам, як характар самае сырызны, так і прынцыпы транспортнае орыентацыі накіроўваюць штандорт броварнае прамысловасьці ў бульбяны матар'яльны (сырызны) склад.

Апошняе вельмі супадае як з інтарэсамі самае прамысловасьці па памяншэньні сабекошту сьпірытусу, так і з інтарэсамі сельскае гаспадаркі па скарыстаньні браварніцтва на паляпшэньне тэхнікі свае культуры і г. д.

Розная транспортабельнасьць бульбы, збожжа і сьпірытусу, а таксама розьніца ў матар'яльных індэксах заводаў, пабудаваных на гэтых паасобных відах сырызны, абумоўлівае сабою, як розную вялічэньня гэтых заводаў павялічваўся з 2,6 проц. у 1897 годзе да

Гэта, як мы ўжо сказалі раней, можна ілюстраваць на эмпірычных даных за 1897 і 1912 г. г. (Дадатак, таб. №№ 4-5).

Па даных за гэтыя гады мы маем наступны выраб і размяшчэньне для паасобных відаў заводаў:

1) заводы чыста-броварные мелі пераважнае размяшчэньне ў вясковых мясцовасьцях (на 96,8 проц., у 1897 годзе і на 92,7 проц. у 1912 годзе). Пры гэтым, процант разьмяшчэньня гэтых заводаў у вёсках, як бачым, зьмяншаўся. Наадварот, у мястэчках процант разьмяшчэньня гэтых заводаў павялічваўся з 2,6 проц. у 1897 годзе да 6,9 проц., у 1912 годзе. І, нарэшце, процант размяшчэньня сельскагаспадарчых заводаў у гарадох памяншаўся з 0,6 проц. у 1897 годзе да 0,4 проц. у 1912 годзе.

2) Заводы, камбінаты па вырабу, зьяўляюцца няўстойлівымі (у 1897 годзе іх было 22, а ў 1912 годзе—толькі 3), пры гэтым цікава, што засталіся толькі тыя 3 заводы, якіе размяшчоны ў горадзе, астатнія-ж заводы, што размяшчалісь у вёсцы, як відаць, зрабілісь выключна броварнымі.

3) Рэкціфікацыйные заводы маюць выразную тэндэнцыю размяшчэньня ў гарадох і мястэчках.

4) Вялічыня вырабу заводаў узрастае ў такім напрамку: броварные заводы, якія размяшчоны ў вёсцы, рэкціфікаты і, нарэшце, броварные заводы, якія размяшчоны ў гарадох.

Паставіўшы ў залежнасьць вялічыню вырабу ад матар'яльнага індэксу, які ўплывае на радзіус прыцягненьня сырызны, мы будзем мець мажлівасьць сказаць, што броварные заводы ў вёсцы працуюць на бульбе, а броварные заводы ў гарадох на збожжы.

Тэндэнцыя руху броварных заводаў на мястэчкі адбівая іх концэнтрацыю і, у сувязі з апошнім, адшуканьне пунктаў лепшага сьцягваньня сырызны.

Рэкціфікацыйные заводы, маючы вялікі выраб, сьцягваюцца ў гарады і мястэчкі, якія зьяўляюцца найлепшым пунктам прыцягненьня навакольнае сырызны ў выглядзе сьпірытусу сырцу.

Атрыманы для броварнае прамысловасьці штандорт ня можа быць парушан і такім элемэнтам сабекошту, як страты на рабочыя рукі. Устойлівасьць штандорту ў даным выпадку будзе залежыць,—ня

гледзячы на параўнаўча вялікі рабочы коэфіцыэнт, які для прывадзімага намі раней сярэдняга заводу будзе ровен—

$$\frac{\text{вялічыня рабочых страт}}{\text{штандортная вага (вага сырызны + вага прадукту)}} = \frac{\text{10.255 руб. 17 кап.}}{\text{102.829}} = \text{10 кап.,—}$$

ад таго, што спагадлівы пункт у дыфэрэнцыі ў заработнай плаце мы маем як раз у вёсцы. Апошняя, дзякуючы агарарнай перанаселенасьці, концэнтруе шмат рабочых рук, якія могуць скарыстаны ў броварнай прамысловасьці.

На гэтым мы і скончым разгляд штандортных асаблівасьцяў броварнае прамысловасьці, як асаблівасьцяў шчыльна зьвязаных з характарам самага вытвору.

Цяпер выкажу некалькі мяркаваньняў на конт вялічыні броварных заводаў. Тут мы спаткаемся з двумя працівалеглымі запатрабаваньнямі. Першае, прымаючы пад увагу нетранспортабельнасьць бульбы, як сырызны, і барды, як адкідаў браварніцтва, мы павінны рабіць заводы, як мага меншымі, для таго, каб мець мажлівасьць выкарыстаць усю памыснасьць уплыву броварнае прамысловасьці на сельскую гаспадарку. З другога боку, мы павінны рабіць броварные заводы, як мага большымі для таго, каб мець мажлівасьць іх найлепшага абсталяваньня, як з боку тэхнікі, так і з боку організацыі.

Як бачым, карысьць, зьвязаная з лепшым абсталяваньнем, або так званыя агломерацыйныя фактары на некаторай ступені завадзкой концэнтрацыі (простай форме агломерацыі па Вэбэру) пачынаюць паралізавацца транспортнымі і іншымі стратамі—так званымі фактарамі дэгломерацыі. Узгадніць гэтыя два моманты і ёсьць задача, якую трэба вырашаць пры конструкцыі тыпу новых броварных заводаў.

Тэорэтычнае вырашэньне гэтага пытаньня ідзе па шляху падрахунку рэзультанты ўзаемадзейнічаньня паміж агломерацыйнымі і дэгломерацыйнымі факторамі.

Так, калі вымераць вялічыню агломерацыі натуральнаю сумаю прадукцыі, то мы будзем мець пэўную суму страт на адзінку прадукту, а значыцца і зберажэньняў, пры розных ступенях агломерацыі.

Адклаўшы на восі абсцысс вялічыні броварных заводаў, а на восі ардынат—зьберажэньні, мы атрымаем крывую, вышэйшы пункт якой і будзе адпавядаць максымуму заводзкага разьмеру.

Для практычнага вырашэньня гэтага пытаньня патрэбны ня толькі нормы для інжынэрных разьлікаў, але і сталы досьлед існуючых заводаў, які, пры наяўнасьці неабходнага ліку аб'ектаў дасьледваньня, можа зрабіць нарматыўные разьлікі зусім непатрэбнымі.

Наогул-жа вырашэньне гэтага пытаньня зьяўляецца даволі складаным, патрабуючым для свайго дакладнага вырашэньня спэцыяльнага досьледу і спэцыяльнай працы.

У далейшым, на падставе вышэй вызначаных асаблівасьцяў броварнае прамысловасьці, а таксама праз увядзеньне розных соцыяльна-палітычных фактараў, паспрабуем даць тлумачэньні лёкалізацыі броварных тыпаў. Акрамя гэтага разглядзім сучаснае размяшчэньне браварніцтва на БССР, яго асаблівасьці і адпаведнасьць існуючым умовам, як з боку географічнай лёкальнасьці, так з боку сырызнага грунту і інш.

---

Каб даць тлумачэньні лёкальнасьці броварных тыпаў не дастаткова ведаць толькі штандортные асаблівасьці данага віду прамысловасьці, бо ступень вызначэньня і роля гэтых асаблівасьцяў цалком залежуць ад социяльна экономічных умоў і палітычных фактараў, падрахунак якіх і будзе конкрэтызаваць нашы разважаньні.

Даваеннае браварніцтва зьяўлялась, як мы бачылі раней, монопольнай уласнасьцю буйных землеўласьнікаў, што абумоўлівалась цэлым комплексам палітычных мерапрыемстваў у ваднасінах да гэтага віду прамысловасьці.

Паколькі гэта так, то першым фактарам, які спасобнічая разьвіцьцю броварнае прамысловасьці, будзе зьяўляцца наяўнасьць абшарніцкага землеўладаньня.

Другім фактарам, які выяўляя сваю дзейнасьць пры наяўнасьці і на падставе першага, будзе сабекошт сьпірытусу франкарынак, які залежыць ад ужо разгледжаных штандортных фактараў данага віду прамысловасьці.

Калі ўявіць першы фактар географічна аднародным, то інтэнсыўнасьць разьвіцьця броварнае прамысловасьці будзе залежыць ад разнароднасьці ў наяўнасьці таннае сырызны, паліва і рабочых рук.

Калі і гэтыя ўмовы ўявіць аднароднымі, то інтэнсыўнасьць разьвіцьця броварнае прамысловасьці будзе залежыць ад блізкасьці да рынку збыту і характару сувязі з ім.

Такава схэма галоўных фактараў, якія вызначаюць характар разьвіцьця броварнае прамысловасьці пры ўмовах фактычнай абшарніцкай монополіі на яе.

Гэтыя фактары, комбінуючысь у розных узаемаадносінах і сувязі, даюць суму ўмоў, адпаведных гэтай комбінацыі, для разьвіцьця браварніцтва. З пункту погляду падрахунку комбінацый усіх фактараў, як зьвязаных з самім вытварам, так социяльна-экономічных і палітычных, трэба падыходзіць да тлумачэньня лёкалізацыі броварных раёнаў, што мы зараз і паспрабуем зрабіць.

---

Лік конкрэтных комбінацый фактараў броварнае прамысловасьці супадае з лікам броварных раёнаў і даволі адпавядае ім згодна вышэй пабудаванай тэорэтычнай схеме.

Першы раён (мапагр. № 3) адбівая ў сабе найбольш спрыяючую для разьвіцьця браварніцтва комбінацыю фактараў.

Так:—вялікі процант буйнага землеўласьніцтва, вельмі добрыя ўраджаі бульбы, вялікая гушчыня насельніцтва з адсутнасьцю значных прамысловых цэнтраў, паўсямеснасьць і таннасьць паліва і, нарэшце, блізкасьць да Заходня-Эўропейскага рынку,—усё гэта, як ня можна лепш, спрыяла разьвіцьцю браварніцтва ў раней апісаны яго тып.

Другі раён,—хаця і адносіцца да бульбянага раёну, а таксама ня гледзячы на тое, што ён быў прымушан, дзякуючы кепскім рыначным умовам, разьвіваць тэхнічную пераапрацоўку сельска-гаспадарчых прадуктаў,—усё-ж, па цэламу шэрагу прычын, адставаў у разьвіцьці ад першага раёну і зьяўляўся тыпам менш устойлівага бровару.

Галоўнымі прычынамі, якія перашкаджалі другому раёну ў конкурэнцыі з першым за першае месца, былі:

1) значна меншы процант буйнаўласьніцкага земляробства;

2) менш спрыяючыя ўмовы для развіцьця бульбы, якая выцесьнялася або каштоўнымі збожжавымі, або цукравымі буракамі;

3) значна больш кепскія ўмовы з апалам;

4) усё тая-ж кепская сувязь з рынкам і асабліва большая, за першага раёну, адлегласьць ад Заходня-Эўропейскага рынку.

Трэці раён мая вялікі процант буйнаўласьніцкага землявробства, але натуральныя ўмовы паслабляюць развіцьцё найбольш таннага сырызнага грунту—бульбы, ды й наогул сырызны грунт гэтага раёну нязначны.

Чацьвёрты раён мае:—малы процант буйнаўласьніцкага земляробства, у большасьці кепскія натуральныя ўмовы для развіцьця бульбы, значна развітыя прамысловыя цэнтры, а ў выніку ўсё гэта дае кепскія ўмовы для развіцьця браварніцтва, якое ў гэтым раёне мае больш прамысловы характар, адарвана ад сельскае гаспадаркі і слаба разьвіта.

Пяты і шосты раёны маюць малы процант буйнаўласьніцкага земляробства і кепскія ўмовы для развіцьця бульбы, разьвіта браварніцтва слаба, носіць выключна прамысловы характар і пабудавана на збожжы.

Такая ёсьць конкрэтная рэалізацыя асноўных фактараў броварнае прамысловасьці па раёнах Эўропейскае Расіі даваенных часоў.

Разьмяшчэньне браварніцтва на Беларусі, пры больш дробным яе раёнаваньні па паветах, падначалена тым-жа асноўным фактарам, што і пры пагубэрскім раёнаваньні. Розьніца толькі ў тым, што колькасная і якасная дыфэрэнцыяцыя паасобных фактараў у прастору мае менш рэзкае выяўленьне.

Так, на тэрыторыі Беларусі мы маем найлепшую комбінацыю фактараў у трэцьцім, высокаінтэнсыўным раёне.

Спрыяючыя ўмовы для развіцьця броварнае прамысловасьці значна паслабляюцца ў другім раёне, як па натуральных умовах (Мазыршчына), так і таму, што тут была значна разьвіта крухмальная прамысловасьць (Ігуменскі і Аршанскі паветы), якая конкуравала з броварнаю. Таму бровар гэтага раёну няўстойліў па сваёй інтэнсыўнасьці.

Першы раён, раён малаінтэнсыўнага браварніцтва, складаецца з паветаў: Гарадокскага, Віцебскага, Дрысенскага , Полацкага і Сенненскага. Натуральные і іншыя ўмовы гэтых паветаў найбольш спрыяюць развіцьцю ў іх льняводзтва, чым бульбы, з якім зьвязана ў сваю чаргу, развіцьцё травасеяньня і, нарэшце, малочнае жывёлы.

Гістарычна складзены жывёлаводна-малочны напрамак гаспадаркі гэтых паветаў, выцесьняе бульбу другімі культурамі, а наяўнасьць кармовага грунту, прыстасаванага да запатрабаваньняў малочнае жывёлы, робіць непатрэбным барду, як корм прыстасаваны больш для мяснога напрамку жывёлаводзтва.

На гэтым мы і скончым разгляд броварнае прамысловасьці даваенных часоў, а ў далейшым застановімся над браварніцтвам пасьлярэволюцыйных часоў на тэрыторыі БССР.

---

### 7. Браварніцтва БССР і яго штандорт.

З пачаткам імпэрыялістычнае вайны 1914 году браварніцтва зрабілася непатрэбным, бо абшарніцкі хлеб нашоў непасрэднае ўжываньне для патрэб арміі, а спаіваць мужыка гарэлкаю было небясьпечна, бо гэта магло рабіць адмоўную рэакцыю патрыатычнаму чаду.

Улічваючы ўсё гэта, царскі ўрад забараніў прадажу гарэлкі, а заводы пазачыняліся адзін за другім самі.

Аднаўленьне браварніцтва пачынаецца, ужо на нацыоналізаваных пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі заводах, у РСФСР з 1918-19 г. г., а на тэрыторыі БССР значна пазьней.

Пры гэтым, першыя крокі браварніцтва робіць грунтуючыся выключна на тэхнічных і мэдыцынскіх запатрабаваньнях сьпірытусу.

Узрост вытвору ідзе зусім слаба, што відаць па даных наступнае табліцы № 14, паданай В. Э. Дэнам (Курс Экономической географии, Ленинград, 1924 год, ст. 302).

*Табліца № 14.*

| ГАДЫ | Лік дзейнічаўшых заводаў | Вытвор. сьпірытусу-сырцу, у тыс. ведзер 40° |
|---|---|---|
| 1918—1919 . . | 87 | 487 |
| 1919—1920 . . | 248 | 2.516 |
| 1920—1921 . . | 356 | 4.161 |
| 1921—1922 . . | 189 | 1.790 |
| 1922—1923 . . | 165 | 2.150 |

Выраб, як бачым, надзвычайна малы ў параўнаньні з даваенным. Браварніцтва-ж на тагочаснай тэрыторыі БССР мае ў 1922-23 годзе толькі адзін завод. У 1923-24 годзе лік заводаў даходзіць, па даных Ц. С. К. (Статыстычны штогоднік за 1923-24 год), да 4-х, пры гэтым, усё гэта заводы з мяшаным вытварам (Дрожжава-броварныя, або дрожжава-броварныя + млын і г. д.); разьмяшчаюцца з іх тры ў Менску і адзін у Барысаве.

Па вырабу гэтых заводаў мы ня маем даных, але яго нязначнасьць відавочна.

У 1924-25 годзе (статыстычны штогоднік за 1924-25 год) БССР, у межах яе першага ўзбуйненьня (1923 год), мае ўжо 16 заводаў, з якіх 12—чыста броварных і 4—дрожжава-броварных, з апошніх разьмяшчаецца тры ў Менску і адзін у Віцебску. 1925-26 год (даныя справаздачных анкет Ц. С. К. па асобных заводах) дае яшчэ больш узрост як ліку заводаў, так і вырабу. У гэтым годзе мы ўжо маем (ня лічачы дрожжава-броварных заводаў, якія маюць зусім нязначны выраб сьпірытусу), на тэрыторыі БССР, у яе сучасных межах, 48 заводаў, з якіх два рэкціфікацыйных, а астатнія чыста броварныя.

І, нарэшце, у 1926-27 годзе мы маем 54 заводы, з якіх два рэкціфікацыйных і 52 броварных (даныя маюцца толькі па 50). Разьмяшчэньне і выраб броварных заводаў за апошнія гады па асобных акругах відаць з табліцы № 15.

Больш хуткі ўзрост браварніцтва за апошнія гады абумоўлен пашырэньнем рынку збыту за кошт піцьцёвага ўжываньня сьпірытусу. Але агульны выраб сьпірытусу ў 1926-27 годзе, пры параўнаньні яго з сярэднім вырабам за даваеннае пяцігодзьдзе (1908—1913 г. г.) трох губэрань (Віцебскай, Менскай і Магілеўскай), складваючых тэрыто-

*Табліца № 15*

| Парадкавыя №№ | НАЗВА АКРУГ | Лік заводаў і выраб | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1924-1925 г. | | 1925-1926 г. | | | 1926-1927 г. | | |
| | | Лік заводаў | Выраб у рублёх | Лік заводаў | Выраб у тыс. грэдус. | Выраб у рублёх | Лік заводаў | Выраб у тыс. градус. | Выраб у рублёх |
| 1 | Аршанская . . | 1 | 182.605 | 6 | 7.888,9 | 425.747 | 6 | 10.342,4 | 551.596 |
| 2 | Магілеўская . . | 5 | 221.127 | 15 | 17.837,7 | 838.450 | 15 | 23.417,4 | 1.380.290 |
| 3 | Менская . . . | — | — | 6 | 5.810,0 | 270.848 | 9 | 11.430,6 | 628.175 |
| 4 | Гомельская . . | — | — | 6 | 17.528,5 | 847.352 | 6 | 18.384,2 | 900.482 |
| 5 | Бабруйская . . | — | — | 6 | 8.683,1 | 474.043 | 7 | 16.212,7 | 1.242.119 |
| 6 | Віцебская . . | 6 | 130.907 | 6 | 5.962,0 | 604.259 | 5 | 6.095,8 | 333.744 |
| 7 | Мазырская . . | — | — | 1 | 524.3 | 28.277 | 2 | 1.731,2 | 84.788 |
| 8 | Полацкая . . . | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | Усяго па БССР . | 12 | 534.639 | 46 | 64.234,5 | 3.488.976 | 50 | 87.614,3 | 5.121.594 |

рыю сучаснай БССР, зьяўляецца зусім нязначным, бо складае па ліку заводаў толькі 11,9 проц., а па вырабу 23,6 проц.

Апошнія лічбы, акрамя іх непасрэднага значэньня, надзвычайна цікавы тым, што яны, па перавышэньню проценту вырабу над процэнтным лікам заводаў, ясна гавораць аб зьменах, якія адбыліся ў сырызным грунце браварніцтва на Беларусі.

Гэтыя зьмены па асобных акругах паказвае табліца № 16, складзеная ў адносных даных розных відаў сырызны па якасьці (бульба пераведзена ў збожжа, згодна выхаду сьпірытусу).

Такім чынам, даныя табліцы № 16 аб суадносінах у сырызным грунце браварніцтва на Беларусі, пададзеныя за данымі, адбіваючымі концэнтрацыю заводаў сучаснае броварнае прамысловасьці ў параўнаньні іх з даваеннымі, сьцьвярджаюць зноў-ткі тую думку, што разам з павялічэньнем разьмераў заводаў памяншаецца процант бульбы ў сырызьне.

Асабліва малы процант бульбы ў сырызьне 1925-26 году ў той час, як процант кукурузы зьяўляецца надзвычайна вялікім. Наогул да 1926-27 году браварніцтва Беларусі было абгрунтавана ў большай сваёй частцы на кукурузе, што, можна сказаць, зусім не адпавядала ні інтарэсам самае прамысловасьці, ні інтарэсам сельскае гаспадаркі.

Такому надзвычайна адмоўнаму зьявішчу спасобнічала тое, што пры нацыяналізацыі броварных заводаў, апошнія былі гаспадарча разарваны з існаваўшымі пры іх маёнткамі, бо зямля маёнткаў адайшла ў распараджэньне НКЗ, а заводы—у карыстаньне іншых Дзяржаўных установ.

Як-бы там ні было, але з гэтым балючым зьявішчам у браварніцтве трэба было павясьці рашучую барацьбу, бо зусім ня варта езьдзіць на поўдзень за кукурузаю, калі пад бокам ёсьць усе ўмовы для

